ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 47 (2573)
ПЯТНІЦА
19
лістапада 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## НОВЫ НЕ ТОЛЬКІ АДРАС...



Новы будынак бібліятэкі імя Пушкіна.



Адкрывае бібліятэку намеснік міністра культуры БССР Р. Мачулін.



Юных чытачоў абслугоўвае Ніна Лойка.



Бібліятэкары Людміла Разанцава і Ірына Салаўёва рэгіструюць першых чытачоў.



Старшы бібліятэкар чытальнай залы Рыма Зневіч падбірае літаратуру наведвальнікам.

У дзень адкрыцця гасцямі бібліятэкі былі Анатоль Астрэйка, Васіль Хомчанка і Рыгор Няхай.

Фота У. КРУКА.

НЕ БАЮЧЫСЯ папрокаў у шаблоне, усё ж назаву гэты будынак палацам. Палацам кнігі. Бо назваць яго неяк іначай, шчыра кажучы, не выпадае. Зірніце на здымак. Ужо знешне будынак уражвае. Уражвае велічынёй, уражвае сваім фасадам — бетон і шкло, уражвае сваёй несумненна палацавай формай. Яшчэ большае святочнае ўражанне пакідае ён пры бліжэйшым знаёмстве, тады, калі паходзіш па яго светлых калідорах і прасторных залах...

Маю на ўвазе новы будынак Мінскай абласной бібліятэкі імя Пушкіна, якая нядаўна — 5 лістапада — справіла сваё наваселле. Новы адрас бібліятэкі: горад Мінск, вуліца імя Гікалы, 4. Аднак гэтае наваселле — не проста наваселле. Па сутнасці, гэта трэцяе нараджэнне старэйшай бібліятэкі сталіцы рэспублікі.

...Узнікла яна на пачатку нашага стагоддзя. У 1899 годзе дэмакратычная і прагрэсіўная грамадскасць Мінска рыхтавалася адзначыць стагоддзе з дня нараджэння вялікага рускага паэта Аляксандра Пушкіна. Нарадзілася думка: заснаваць у горадзе бібліятэку яго імя. Энтузіясты сабралі 2 тысячы кніг і паўтары тысячы рублёў на набыццё кніг. Але думка гэтая была зусім не па гусце гарадскім уладам. Бібліятэка? Навошта? Яшчэ адзін рассаднік вольнадумства? Пытанне адкрыцця бібліятэк адкладвалася і адкладвалася. І толькі ў ліпені 1900 года губернатар даў, урэшце, літасцівы дазвол.

25 снежня 1900 года адбылося яе адкрыццё. Штат бібліятэкі складаўся з трох чалавек: бібліятэкар, яго памочнік і вартаўнік. Прадчуванні губернатара былі недарэмныя: бібліятэка імя Пушкіна з першых дзён сваёй работы стала асяродкам не толькі культурна-асветнай, але і рэвалюцыйна-прапагандысцкай дзейнасці, своеасаблівым штабам мінскіх сацыял-дэмакратаў. У 1913 годзе, у самы разгул рэакцыі, чыноўнікі, якія правяралі бібліятэку, адзначалі, што многія яе аддзелы ўкамплектаваны літаратурай пераважна прагрэсіўнага, сацыялістычнага кірунку. І яны не памыляліся: тут былі творы Маркса, Энгельса, Леніна, Пляханава, Лафарга і г. д.

І яшчэ адзін штрых: у 1909 годзе, калі рэакцыя ўсіх масцей спявала анафему Льву Талстому, савет бібліятэкі абраў вялікага пісьменніка зямлі рускай сваім ганаровым членам. Леў Талстой з удзячнасцю прыняў гэтае абранне...

У 1918 годзе бібліятэчную чытальную залу запоўнілі дзеці рабочых, дзеці гарадской беднаты. З 1938 года пушкінская бібліятэка носіць назву абласной. Напярэдадні вайны ў ёй было больш 175 тысяч кніг.

У другі раз пушкінка нарадзілася ў сорак чацвёртым годзе. У зруйнаваным і дашчэнту разрабаваным гітлераўцамі горадзе з цяжкасцю ўдалося сабраць для яе каля 8 тысяч кніг...

Сёння ў бібліятэцы імя Пушкіна — больш 250 тысяч тамоў самай разнастайнай літаратуры. Яна — буйны навукова-метадычны і бібліяграфічны цэнтр Міншчыны.

І вось—трэцяе нараджэнне. Пра яго гаворыць намеснік дырэктара па навуковай частцы Ангеліна Антонава:

— Карысная наша плошча зараз — 7 тысяч пяцьсот квадратных метраў. Агульная чытальная зала, юначая, залы перыёдыкі, беларускай і краязнаўчай, тэхнічнай і сельскагаспадарчай літаратуры, зала мастацтва — усіх іх восем — адначасова могуць прыняць 800 чытачоў. Створаны выдатныя ўмовы для работы ўсіх аддзелаў і служб бібліятэкі: навукова-метадычнага, даведачна-бібліяграфічнага, арганізацыі каталогаў, камплектавання, сектараў міжбібліятэчнага абанемента і ўліку, аддзела кнігасховішча і г. д. У штаце бібліятэкі — 62 бібліятэчныя работнікі, з іх дзевяноста працэнтаў маюць вышэйшую адукацыю. Галоўны бібліёграф Ганна Уладзіміраўна Кубіцкая, загадчык аддзела апрацоўкі Браніслава Міхайлаўна Жаймовіч, загадчык аддзела кнігасховішча Тамара Захараўна Гарэлік, старшыя бібліятэкары Мацільда Крупко і Людміла Касяк, рэдактар каталогаў Тамара Гаўрына і многія іншыя — гэта сапраўдныя энтузіясты бібліятэчнай справы, гатовыя заўсёды прыйсці на дапамогу чытачу, даць яму вычарпальную інфармацыю і прафесіянальную кансультацыю. Ёсць у нас зараз і магчымасці для правядзення масавай работы — арганізацыі вечароў, сустрэч, дыспутаў, канферэнцый...

Новая пушкінка гасцінна запрашае чытачоў.

М. ГІЛЬ.

З НОВЫХ ПЕРАКЛАДАЎ

*Набліжаецца слаўная падзея ў культурным жыцці краіны — святкаванне 150-годдзя з дня нараджэння вялікага рускага народнага паэта М. А. Някрасава. Творы выдатнага майстра слова заўсёды былі папулярныя на Беларусі, яны неаднаразова перакладаліся на нашу мову. Вось і цяпер, напярэдадні юбілею, у выдавецтве «Беларусь» выходзіць з друку зборнік выбраных вершаў і паэм М. А. Някрасава ў новых перакладах лепшых беларускіх паэтаў. Прапануем чытачам некаторыя з гэтых перакладаў.*

## М. А. НЯКРАСАЎ

# РОЗДУМ ЛЯ ПАРАДНАГА ПАД'ЕЗДА

Вось парадны пад'езд. У святочныя дні,
Апантаны халопскай знямогай,
Прыязджае ўвесь горад з трывогай
Да дзвярэй, поўных гоману і мітусні.
Запісаўшы імя сваё, званне,
Едуць госці дамоў чарадой,
Задаволеныя ўсе сабой,
Быццам бы — ў гэтым іх і прызванне!
А ў звычайныя дні ля пад'езда заўжды
Пражакцёры, удовы таўпяцца,
І нябогі, якія прыходзяць сюды
Атрымаць ці пасаду, ці працу.
То туды, то ізноўку назад стрымгалоў
Усе кур'еры з паперамі скачуць.
Часам нехта вяртаецца з песняй дамоў,
Але большасць прасіцеляў плача.
Бачыў раз, як сюды мужыкі падышлі,
Спрацаваныя рускія людзі,
На царкву памаліліся, сталі ўдалі,
Апусціўшы галовы на грудзі.
Паказаўся швейцар. Просяць:
«Дапамажы».
Словы поўны надзеі і мукі.
Гляну ў той. Непрыгожыя, што ні кажы!
Загарэлыя твары і рукі,
Світка зношаная на плячах,
Што ад торбы дарожнай сагнуты,
Крыж на шыі і кроў на нагах,
У лазовыя лапці абуты.
(Знаць, цягнуліся доўга яны
З нейкіх самых далёкіх губерняў).
Нехта крыкнуў швейцару: «Гані!
Наш не любіць абношаній чэрні!»
Хтось яшчэ ля дзвярэй пастаяў,
Потым кайстры свае развязалі,
Ды швейцар нат гасцінца не ўзяў,
І пайшлі яны, бедныя, з жалем:
«Хай яго лепш не ведае бог!»
Безнадзейна разводзячы рукі,
Покуль позірк мой бачыць іх мог,
Шапкі зняўшы, брылі яны брукам.

А ўладар у палацы сваім
Яшчэ спаў сном глыбокім, глухім.
Ты, што лічыш зайздросным жыццём
Захапленне гульнёй і віном,
Бессаромнасць, лісліваць пустую,
Абудзіся! Вярні іх з дарогі!
Акажы бедакам дапамогу!
Ды шчаслівы сумленне не чуе...

Што табе ўсе грымоты нябесныя,
Калі ты не баішся зямных.
І нясуць сваё гора няўцешнае
Людзі гэтыя ў сэрцах сваіх.
Што табе іх пакуты бязвінныя
І як гэтыя людзі жывуць?
Дні твае, быццам свята няспыннае,
Нат ачуцца табе не даюць.
І нашто? Грамацеяў забаваю
Ты народнае шчасце завеш;
Без яго пражывеш ты са славаю
І са славай памрэш!
Бясклапотнай аркадскай ідыліяй
Абарвуцца старэчыя дні:
Пад блакітамі неба Сіцыліі
У духмяных алеў цішыні.
Будзеш бачыць, як сонца вячэрняе
Апускаецца ў мора Міжземнае
І праменні на ім зіхацяць,—
Загайданы пявучымі хвалямі,
Звонам іх, ты заснеш, — як дзіця,
Пад апекай сваіх не разжаленых,
А абрадаваных сваякоў
(Што, нарэшце, канца дачакаліся);
Прывязуць цябе потым дамоў,
Памянуць цябе трызнай багатай
І засыплюць магілу... герой,
Ціха ўсёю айчынай пракляты,
Узвялічаны гулкай хвалой.
Зрэшты, што ж мы асобу такую
Непакоім з-за простых людзей.
Мо на іншых спагнаць злосць крутую! —
Беспячнейі... А яшчэ весялей
У другім чым знайсці уцяшэнне...
Не бяда, што пацерпіць мужык:
Розум кажа, пра гэта здарэнне
Памаўчаць лепш... ды ён жа прывык!
На прадмесці ў харчэўні убогай
Усё прап'юць бедакі да рубля
І пайдуць жабраваць па дарогах
І застогнуць... Радзімы зямля!
Назаві мне мясціну пад сонцам,
Я такое яшчэ не спазнаў,
Дзе б твой сейбіт і твой абаронца,
Дзе б твой рускі мужык не стагнаў?
Стогне ён на палях і дарогах,
Стогне ён па ўсіх турмах, астрогах.
Скуты путамі ў шахце сырой;
Стогне ён пад асеццю, пад стогам,
Сярод стэпу начною парой;
Стогне ў хаце гнілой, у адрыне,
Ад сваіх горкіх думак і сноў,
Стогне ў кожнай забытай мясціне,
Ля пад'езда палацаў, судоў.
Стань над Волгай. Чый стогн раздаецца
Над вялікаю рускай ракой?
Гэты стогн у нас песняй завецца —
Там ідуць бурлакі грамадой!..
Волга! Волга! Вясной мнагаводнай
Ты не так заліваеш палі,
Як вялікай журбою народнай
Перапоўнены нетры зямлі!
Дзе народ, там і стогн не сціхае.
Што ж, гаротнік, твой стогн азначае?
Ці ж ты сілы свае загубіў,
Ці пакорны ты лёсаў закону,
Усё магчымае ажыццявіў, —
Даў падобную песню да стогну,
Назаўсёды духоўна спачыў?..

Пераклаў М. ТАНК.

●

Душна! без волі панура,
Ноч гэта будзе дакуль?
Хай бы ўжо грымнула бура, —
Чаша запоўна пакут!
Грымні над хвалямі мора,
Лес абудзі і палі,
Чашу народнага гора —
Грымні, — разлі!..

●

Неўзабаве з жыццём развітанне.
Добра мёртвым, ды страшна канаць;
Нічыйго не прашу шкадавання,
Дый не будзе каму шкадаваць.

Я дваранскаму нашаму роду
Бляску лірай сваёй не прыдбаў,
Але гэткі чужы я народу
Паміраю, як жыць пачынаў.

Сувязь дружбы парвана сардэчнай,
Цяжкі лёс мне з дзіцячых гадоў
Ворагаў пасылаў даўгавечных,
Барацьба забірала сяброў.

Не дасяглі жаданае мэты,
Палі здрады ахвярай яны,
І з дакорам цяпер іх партрэты
На мяне ўсё глядзяць са сцяны.

Пераклаў Ал. РУСЕЦКІ.

*У МІНІСТЭРСТВЕ КУЛЬТУРЫ БССР.*

# ВЫХОЎВАЦЬ АТЭІСТАЎ

Калегія Міністэрства культуры БССР прыняла пастанову аб мерапрыемствах, накіраваных на атэістычнае выхаванне насельніцтва. Абласным і мінскаму гарадскому ўпраўленням, раённым і гарадскім аддзелам культуры прапанавана разгледзець пытанне аб стане атэістычнага выхавання насельніцтва і распрацаваць канкрэтныя планы па ўмацаванні антырэлігійнай работы ва ўсіх установах культуры, звярнуць асаблівую ўвагу на атэістычнае выхаванне рабочай, сельскай і вучнёўскай моладзі, на індывідуальную работу з веруючымі.

У культурна-асветных установах прадугледжваецца сістэматычна праводзіць гутаркі, лекцыі, дыспуты, вечары пытанняў і адказаў, бібліяграфічныя агляды, канферэнцыі чытачоў, выступленні калектываў мастацкай самадзейнасці і іншыя масавыя мерапрыемствы на антырэлігійныя тэмы, шырэй выкарыстоўваць творы кіно, выяўленчага мастацтва, дыяфільмы. Да канца года будуць абноўлены наглядная агітацыя па навукова-атэістычнай тэматыцы, кніжныя паліцы, вітрыны, куткі атэіста. У гарадскіх і раённых аддзелах культуры намечана стварыць гарадскія і раённыя перасоўныя антырэлігійныя выстаўкі для дэманстрацыі іх на прадпрыемствах, у навучальных установах, калгасах, саўгасах. Клубы стануць месцамі правядзення сучасных абрадаў — рэгістрацыі шлюбаў, нараджэнняў, уручэння пашпарта, прысвячэння моладзі ў рабочыя або хлебаробы, провадаў у армію, на пенсію. Палепшыцца арганізацыя масавых народных святаў зімы, вясны, ураджаю, Дня работнікаў сельскай гаспадаркі і інш.

Музеям рэспублікі прапанавана ўзмацніць работу па прыродазнаўча-навуковай і атэістычнай прапагандзе, шырэй практыкаваць правядзенне мэтавых экскурсій на атэістычныя тэмы, стварыць пастаяннадзеючыя перасоўныя антырэлігійныя выстаўкі і накіраваць іх для паказу ў сельскія культасветустановы.

Намечана ажыццявіць многія іншыя мерапрыемствы.

У СЯМ'І АДЗІНАЙ

# ГОСЦІ З ЛІТВЫ

Саюз кінематаграфістаў Беларусі да 50-годдзя з дня ўтварэння СССР арганізуе цыкл вечароў, прысвечаных кінематаграфіям усіх саюзных рэспублік.

Днямі адбыўся першы вечар гэтага цыкла. Яго адкрыў сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР рэжысёр Ігар Дабралюбаў. Пра развіццё літоўскага кіно беларускім калегам расказаў першы сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў Літвы, заслужаны дзеяч мастацтваў і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Літоўскай ССР кінарэжысёр Раймондас Вабалас, пастаноўшчык вядомых мастацкіх кінакарцін «Крокі ў начы», «Лесвіца ў неба», «Марш-марш тра-та-та» і іншых.

Затым адбылася прэм'ера і абмеркаванне фільма рэжысёра Р. Вабаласа «Камень на камень», які прысвечаны барацьбе прыгонных літоўскіх сялян супраць самавольства і прыгнёту памешчыкаў. Кінакарціну здымаў выдатны кінааператар Іонас Грыцюс (яго папярэднія стужкі—«Ніхто не хацеў паміраць», «Гамлет», «Кароль Лір»). У ёй прымаюць удзел вядомыя акцёры Р. Адамайціс, К. Віткус, Г. Карка, В. Бледзіс, А. Матуленіс, якія, дарэчы, не раз здымаліся і ў беларускіх кінатворах.

У сваю чаргу госцю з Літвы былі паказаны і разам з ім абмеркаваны дакументальныя стужкі вытворчасці аб'яднання «Летапіс». Р. Вабалас, у прыватнасці, высока ацаніў фільм сцэнарыста і рэжысёра Віктара Дашука «Дом».

Наступныя вечары будуць прысвечаны кінамастацтву Латвіі, Узбекістана, Кіргізіі, Таджыкістана. У бліжэйшы час у Казахстан, на Украіну і іншыя братнія рэспублікі з новымі фільмамі выязджаюць групы беларускіх кінематаграфістаў.

**І. РЭЗНІК,**
метадыст Саюза кінематаграфістаў БССР.

# ПАМЯЦІ М. А. МІНКОВІЧА

*Савет Міністраў БССР прыняў пастанову аб ушанаванні памяці міністра культуры БССР Міхаіла Аляксандравіча Мінковіча. Яго імя прысвоена бібліятэцы № 10 г. Мінска. Яна надалей будзе называцца: бібліятэка № 10 імя М. А. Мінковіча.*

БЕЛТА.

Новыя назвы на афішах



Калектыў Рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага паказаў новы спектакль — «А зоры тут ціхія...» паводле аднайменнай аповесці Б. Васільева. Інсцэніроўка Ю. Любімава і Б. Глаголіна, паставіў спектакль заслужаны артыст РСФСР Ю. Любімаў, рэжысёр Б. Глаголін, мастакі А. Бароўскі, Л. Дзетар, музычнае афармленне Ю. Буцко.

На здымку—сцэна са спектакля.

Фота Ул. КРУКА.

*ПАМФЛЕТ*

Алесь БАЖКО

# ЕЛІ, ЕЛІ «САЛАДУХУ»...

ІХ АБСТРАЛЯЛІ з Нью-Йорка. Знянацку, як ваўкоў або шакалаў. Асколкі магутных газетных «ракет» і «снарадаў», нацэленых на Вашынгтон, шыбанулі і па яго радыёрупарах — «Голасе Амерыкі», «Свабодзе», «Вольнай Еўропе»...

У так званай «беларускай» рэдакцыі «Свабоды» якраз стрыглі інфармацыі з нашых газет, падтасоўвалі іх на ўласны манер і цягнулі ў свае панылыя і ўбогія радыёперадачы пра жыццё ў Савецкім Саюзе. Нехта запрапанаваў яшчэ больш падчарніць іх вытрымкамі з пісьма калінінградскай спекулянткі Доры Калядзінскай, якой бессардэчныя бальшавікі цынічна забараняюць ехаць у Ізраіль да сваёй радні. Але шэф рэдакцыі запярэчыў. Мабыць, ён рашыў, што Дора Калядзінская — даўно пройдзены этап у іх беспардоннай хлусні. На рэдакцыйны стол леглі паведамленні заходнееўрапейскіх тэлеграфных агенцтваў пра новыя прыгоды «геніяльнага» Тарсіса, які па-здрадніцку пакінуў Радзіму разам са сваёй нікчэмнай пісанінай. Не менш «цікавымі» былі паведамленні і пра Кузняцова. Гэты таксама папрацаваў на буржуазную прапаганду, выклянчыўшы ў англічан права на здрадніцкую дзейнасць у Лондане.

Да гэтай інфармацыі можна было дадаць і паведамленні з Бруселя, дзе сіяністы тры дні запар пратэставалі, як яны брахалі, супраць «пагалоўнага праследавання» яўрэяў у нашай краіне. Было не было, але лямант нарабілі. Затое аб тым, што верхаводы Ізраіля кожны дзень здзекуюцца з арабаў, гэтыя крыкуны, канечне, нават і не пікнулі.

Не адважылася нічога вартага ўвагі сказаць пра гэта і «Свабода». Хопіць і таго, што яны пратэстуюць. Сіяністы выбіваюцца ў авангард антысаветчыкаў, таму «Голасу Амерыкі», «Свабодзе», «Вольнай Еўропе» загадана ўслаўляць іх «подзвігі». Невыпадкова яшчэ ў жніўні 1953 года па ініцыятыве Дуайта Эйзенхаўэра, тагачаснага гаспадара Белага дома, было створана інфармацыйнае агенцтва — ЮСІА, у якім цяпер завіхаюцца каля 12 тысяч чалавек. У сто адной краіне свету яны збіраюць звесткі, надаюць ім адпаведную афарбоўку і на гэтыя ж краіны трансліруюць па радыё, перадаюць па тэлебачанні, рассылаюць у спецыяльных прэс-бюлетэнях.

Яўна тэндэнцыйная спекуляцыйная інфармацыя перадавалася з франтоў так званай «в'етнамскай кампаніі». «Свабода» трансліравала гэтую ідэалагічную «саладуху» на Савецкі Саюз і краіны народнай дэмакратыі. Больш за 1 500 чалавек — найміты капіталістычнай радыёбрахалаўкі — карміліся ёю і вялі супраць нас падрыўную работу.

І раптам... О, гэта сапраўды быў страшэнны ўдар! Страшнейшы за выбух фугаснай бомбы. Яго можна было б неяк перажыць, схаваўшыся за шырокія плечы містэра Хэлмса, дырэктара Цэнтральнага разведвальнага ўпраўлення ЗША. А тут і ён яшчэ не ведае, ці ўтрымаецца на сваім крэсле. І ўсё з-за таго, што 13 чэрвеня 1971 года — аказваецца, сапраўды ёсць нешчаслівыя даты — амерыканская газета «Нью-Йорк таймс» выйшла, нашпігаваная звышсакрэтнымі дакументамі Пентагона, якія сарвалі маску з вашынгтонскіх палітыканаў, паказалі, чаго яны варты, як ашуквалі свой народ, увесь свет і нажывалі мільёны.

Кажуць, што пасля гэтага сумнага выпадку ў шэфа ЮСІА Фрэнка Шэкспіра на некалькі дзён адзеравянеў язык. Анямелі, разгубіліся і яго калегі па распаўсюджванні хлусні на радыёстанцыях «Голас Амерыкі», «Свабода» і «Вольная Еўропа». Гэта проста цуд, што яны ўцалелі. Елі, елі небаракі саладуху і... абкапаліся. Цяпер ужо ніякім шкіпінарам не адмыюцца яны, хоць, як вядома, ад іх і так несла нячыстым — людзі выключалі радыёпрыёмнікі і пляваліся.

Дагаджаючы Ніксану і яго аднадумцам у Пентагоне, Фрэнк Шэкспір выдаў на-гара свой дакументальны фільм «В'етнам, В'етнам!». У Пентагоне паглядзелі яго, і спачатку ўсе павесялелі. Нехта нават дзіка зарагатаў ад захаплення: вынаходлівы кароль хлусні даказваў гэтай кінастужкай, што амерыканцы не наступаюць, а абараняюцца ў В'етнаме. А калі так, значыць, яны не ворагі, а сябры мясцовых абарыгенаў. Агрэсіяй там і не пахла. Калі хто і пагражае В'етнаму, дык гэта самі в'етнамцы. Тыя, што яшчэ не скарыліся. Але яны будуць разбіты. Адсюль і шытая белымі ніткамі мараль: палітыка Вашынгтона — адзіна правільная. Аспрэчваць гэта могуць толькі самі амерыканскія вайскоўцы і іх саюзнікі па крывавых расправах у Індакітаі.

Аднак у самы разгар прагляду гэтай кінакамедыі Фрэнку Шэкспіру сказалі: вы перастараліся, шаноўны! Такія кінабаевікі цяпер небяспечна дэманстраваць у Амерыцы. Перш займіцеся газетай «Нью-Йорк таймс», дакажыце, што яна вар'ятка.

Даказаў бы, ды гэта цяжка было зрабіць. «Нью-Йорк таймс» — адна з найбольш інфармаваных буржуазных газет ЗША. І выходзіць яна тыражом 800 тысяч экземпляраў. Хіба тое, што яна тады апублікавала, можна было перахапіць і ўтаіць ад шырокай грамадскасці? Фрэнк Шэкспір не верыў у такі цуд. Праз якую гадзіну ён ужо бушаваў у сваёй канторы — рабіў неабходныя захады, каб утрымацца на палітычнай арэне. Але «Нью-Йорк таймс» зноў абстраляла Вашынгтон з цяжкай газетнай артылерыі. Аб чым думалі рэдактары яе? Як яны адважыліся запусціць свае памаўзлівыя рукі ў самыя глыбокія сховы Пентагона і выцягнуць адтуль звышсакрэтныя дакументы? А яны б'юць і па інфармацыйным агенцтве, якое гадамі ўслаўляла амерыканскую агрэсію ў Індакітаі.

Так, цяпер ужо ніхто не сумняваўся, што Злучаныя Штаты самі справакавалі вайну ў Індакітаі. Ды ніхто гэтага і не аспрэчваў, настолькі важкія і неабвержныя былі тыя публікацыі. Гаспадары Белага дома, крыху ачомаўшыся, аж заходзіліся ад злосці, даведаўшыся, што сакрэтныя дакументы перадаў газеце не які-небудзь малады недасведчаны клерк, а добра знаёмы ім прафесар Даніэл Элсберг, супрацоўнік цэнтра міжнародных даследаванняў Масачусецкага тэхналагічнага інстытута. Няўжо ён быў заадно з палахлівымі «галубамі»? Не, Даніэл Элсберг сімпатызаваў «ястрабам», верыў у неабходнасць вайны ў В'етнаме. Але ён не людаед, а звычайны амерыканец, ненавіснік палітычных інтрыг і падману.

Я прыводжу гэтыя агульнавядомыя факты з нашага друку дзеля таго, каб чытачу лягчэй было зразумець, якую непрыглядную пазіцыю займалі тады «Свабода» і «Вольная Еўропа». У іх не хапіла «аб'ектыўнасці» падтрымаць праціўнікаў бруднай вайны ў В'етнаме. А сіяністаў — падтрымалі, хоць добра ведаюць, што яны не лепшыя за нацыстаў.

Дора Калядзінская... Тарсіс... Анатоль Кузняцоў. На гнілыя цялячыя мазгі разлічана гэтая радыёгульня ў «лаві злодзея». Шкада, што ў ваколіцах «Свабоды» і «Вольнай Еўропы» няма сцяны плачу. Мюнхенскія плаксуны даўно пераплюнулі б не толькі сваякоў Доры Калядзінскай, але і самога Залмана Шызара, шаноўнага прэзідэнта Ізраіля. Той у разгар лютай паліцэйскай расправы над мірнымі дэманстрантамі на плошчы Сіён у Тэль-Авіве галасіў каля «сцяны плачу»... па злачынцах, якія нашкодзілі ў СССР і атрымалі за гэта па лапах.

Ад Залмана Шызара набралася жалю і газета «Ал-Гамішмар». Яна, усхліпваючы, аб'явіла суайчыннікам, што «савецкія ўлады разгарнулі ледзь не па ўсім Саюзе д'ябальскую кампанію» працэсаў.

Потым у Тэль-Авіў нечакана завітаў галоўны абаронца «ўсіх пакрыўджаных» — яго светласць Рычард Хэлмс, шэф ЦРУ. Разам з ім з авіялайнера тыпу «Боінг» высадзілася цэлая гайня «даверанных супрацоўнікаў». Чаго яны сарваліся з наседжаных крэслаў у Ленглі (штаб-кватэра ЦРУ каля Вашынгтона), ніхто дакладна не ведаў. Высокі госць моцна трымаў язык за зубамі. Можна было нават падумаць, што яго заваражылі або напалохалі палесцінскімі партызанамі. Яны доўга не валаводзіліся б з гэтым «міратворцам». Але гаспадары паднялі на ногі ўсю службу бяспекі, і праз колькі дзён увесь свет ужо ведаў (аб гэтым пастараўся містэр Шэкспір са сваімі малойчыкамі), што Хэлмс цішком сустракаўся з Г. Меір, М. Даянам і А. Эбанам, што ў Тэль-Авіў яго паслаў асабіста прэзідэнт Ніксан, забяспечыўшы пры гэтым асобымі паўнамоцтвамі.

Не цяжка здагадацца, аб чым гэтыя паны шапталіся ў Тэль-Авіве. Ізраілю патрэбны грошы і ўзбраенне для абароны «яго» граніц на акупіраваных землях Іарданіі, Сірыі, Егіпта, Палесціны, а Злучаным Штатам — плацдарм для ваенных і палітычных інтрыг у раёне Міжземнага мора.

На ваеннай базе Шарм-аш-Шэху ў аднаго высокапастаўленага тэльавіўца пачаўся прыступ ваеннай істэрыі. Кажуць, гэта быў Мошэ Даян, якому сняцца новыя крывавыя паходы. Але Хэлмс тузануў сапсelага авантурыста за крысо мундзіра і сказаў, што пакуль не можа гарантаваць Ізраілю хуткай перамогі над арабамі.

Варта нагадаць мюнхенскім «сябрам падняволеных народаў», што лёгкія да слёз лідэры Ізраіля, напэўна, толькі злараднa ўсміхаліся, калі зайшла гаворка пра абрабаваных да нітачкі палесцінскіх арабаў. Даянавы анучнікі павыганялі іх з гарадоў і вёсак у неабжытыя мясціны. Гэта ж ненавісныя гоі, іх можна страляць, паліць напалмам, гнаіць у астрогах і канцэнтрацыйных лагерах. На адабраныя ў іншаверцаў землі прыедзе рабіць свой гешэфт пані Дора Калядзінская. Над уваходам у кнесет Ізраіля даўно красуецца надпіс на стараяўрэйскай мове: «Яўрэй, твая радзіма ад Ніла да Еўфрата». А калі гэта так, дык чаго ёй было сядзець у тым старажытным прыгожым, але няўтульным для яўрэйскіх арыек Калінінградзе. Бедная, няшчасная пакутніца. Бальшавікі нават не спрэзентавалі ёй халадзільніка на дарогу. Пад яго абшыўку можна было б схаваць усё тое золата, якое Калядзінская мерылася нелегальна пераправіць за граніцу.

Не наступайце на мазоль і «геніяльнаму» Тарсісу. Ён крыху падлячыўся ў псіхіятрычнай бальніцы ды зноў раздае аўтографы, заклікаючы да гэтага і Анатоля Кузняцова, свайго аднадумца і калежку па здрадзе. Ёсць чутка, што іх партрэты красуюцца ледзь не ва ўсіх літаратурных салонах Тэль-Авіва.

Толькі дарэмна там носяцца з гэтымі адшчапенцамі. Нікому яны не патрэбны на Захадзе. Асабліва цяпер, калі ўсім стала ясна, што гэта за птахі. Тарсіса, якому пасля перапалкі з «ненажэрнымі» парыжскімі выдаўцамі «пагоршала ў галаве», неўзабаве зноў запраторацць у бальніцу. А нованарачоны мас'е Анатоль (Кузняцоў прасіў, каб яго так называлі) будзе ціха сядзець, як пацук пад венікам, у адным з лонданскіх прытонаў ЦРУ. Спрытны «раманіст» прырабляе там на дробных падрадах — дапамагае нейкаму Фількенштэйну расстаўляць сілкі на савецкіх турыстаў.

Вядомы рускі паэт Яўген Еўтушэнка, які добра ведае Кузняцова, гаворыць, што гэта — копія дзікенсаўскага Урыя Гіпа, якому ўсё адно, дзе жыць, з кім дружыць, абы не адганялі ад стала і не скупіліся на чаявыя.

КІНО

# АГНЁМ І КУЛЯМІ ВЫПАЛЕНА

*ФІЛЬМ БЕЛАРУСКАГА ТЭЛЕБАЧАННЯ «ЯШЧЭ ГАРЫЦЬ ХАТЫНЬ»*

Трагедыя Хатыні, трагедыя сотняў загінуўшых вёсак... Пра гэта не перастаюць думаць, гаварыць, пісаць, здымаць фільмы. Словы жалобныя і гнеўныя, словы-набаты, словы-званы, словы-стогны, словы, што жахлівым камяком застраюць у горле, болем і смуткам вырываюцца з грудзей і гучаць над планетай, бо ўсё яшчэ гарыць Хатынь.

Фільм Беларускага тэлебачання «Яшчэ гарыць Хатынь» — трэці, што зроблены на гэтую тэму ў рэспубліцы. Два папярэднія — «Боль мой — Хатынь» (рэжысёр П. Аліфярэнка) і «Хатынь, пяць кіламетраў» (рэжысёр І. Калоўскі) — здымаліся ў аб'яднанні «Летапіс» студыі «Беларусьфільм».

Нядаўна ў Славакіі адбыўся Міжнародны фестываль тэлевізійных фільмаў для дзяцей і моладзі. Ён праходзіў пад дэвізам «За прагрэсіўныя адносіны дзяцей і моладзі да жыцця». Адным з нямногіх фільмаў на антываенную тэму быў савецкі «Яшчэ гарыць Хатынь», паказаны, на жаль, па-за конкурсам. Мяркуючы па водгуках, якія з'явіліся ў друку, ён мог атрымаць адзін з прызоў гэтага пачэснага фестывалю. Вось што пісала ў тыя дні браціслаўская газета «Праўда»: «Жахлівая гісторыя беларускай вёскі, адной з сотняў знішчаных фашыстамі, будзіць сумленне кожнага гледача і вымушае задумвацца пра бесчалавечнасць войнаў, пра лёс іх ахвяр».

Павольнай цяжкай хадой вядуць нас стваральнікі фільма «Яшчэ гарыць Хатынь» (аўтар сцэнарыя А. Вялюгін, рэжысёр А. Колас, аператар В. Хайцін) па зямлі, на якой стаялі хаты, жылі людзі. Як усе людзі на зямлі, яны чакалі шчасця, вялікага і маленькага, працавалі, марылі, спадзяваліся... І раптам сакавіцкай раніцай 1943-га ўсяго гэтага не стала. Сто сорак тры чалавекі згарэлі жывымі. Старэйшаму было семдзесят гадоў, малодшаму — сем тыдняў... Сто сорак тры чалавекі згарэлі жывымі. Сто сорак тры чалавекі...

Кроў стыне ў жылах... Міжволі прыгадваюцца радкі з паэмы А. Вярцінскага «Даруйце!», радкі, якія, бадай, маглі б стаць эпіграфам да фільма: «Плывуць вашы цені ў чужыя сусветы... Дзе вашы целы, дзе вашы твары? Плывуць вашы цені... Ахвяры, ахвяры!» Як немагчыма зразумець, што такое бясконцасць, так немагчыма ўявіць, як людзі знішчаюць людзей. Тое, што здарылася, нельга апісаць словамі — няма такіх слоў. І нельга зняць на плёнку — немагчыма зняць жах, боль, смерць. Немагчыма... Гэта разумеюць аўтары фільма, таму яны гранічна стрыманыя ў сваім расказе (толькі тэкст, здаецца, чытаецца надта ўзнёсла і ўрачыста, хацелася б, каб Павел Кармунін рабіў гэта менш «артыстычна»). Яны не спрабуюць абудзіць у нас пачуцця аптымізму ў канцы фільма: тых, каго няма, — няма. Ніхто, ніщто не можа вярнуць іх да нас. Нават памяць. Пра гэта таксама з бязмежным болем гавораць стваральнікі стужкі. Але той, хто жыве, павінен памятаць. Перад намі на экране сведкі злачынстваў у Хатыні і іншых спаленых вёсках.

— Кроў лілася ручаём, снег чырвоны быў...

— Так і сканаў сын на руках у мяне, так і сканаў на руках...

— Няма партрэтаў Мішы — яшчэ не здымалі. Пяць гадочкаў было... Калі расстрэльвалі, ён пабег. Але кулі яго дагналі...

— Сто іх там было. Адны бабы ды дзеткі малыя. Хату аблілі і падпалілі. Усе згарэлі... Вось як...

— Сто трыццаць шэсць вёсак загінулі разам з людзьмі.

На экране твары, твары, твары. Маладыя — яны нарадзіліся пасля вайны, і старэйшыя, што перажылі вайну: студэнты, лётчыкі, дзяржаўныя дзеячы, вучоныя, рабочыя.

Трыццаць гадоў таму разыгралася хатынская трагедыя ў Беларусі. Яна паўтарылася ў Францыі, яна паўтарылася ў В'етнаме.

Звоняць хатынскія званы—спыніцеся! Крычаць на ўсе галасы шыльдачкі з імёнамі загінуўшых — спыніцеся! Бацька нясе на руках мёртвага сына. Гады нясе. Дні і ночы. У спякоту і дождж. Спыніцеся! Гэта вельмі важна— спыніцца, гавораць аўтары фільма. Спыніцца і задумацца. Лёс чалавецтва залежыць ад кожнага з нас. Ад усіх нас. Спыніцеся.

Жыццё працягваецца. У жыцця няма канца. Мы жывём і нават не прыкмячаем, якія мы шчаслівыя. Дыхаць, глядзець на неба, раджаць дзяцей, складаць вершы, расціць збажыну — гэта, відаць, і ёсць сапраўднае шчасце, калі падумаць...

Але была вайна. І зараз ідзе вайна. І недзе там, па-за межамі нашай краіны, тоіцца вайна. Давайце памятаць пра гэта. Немагчыма, каб Хатынь паўтарылася.

Хай даруюць мне стваральнікі стужкі «Яшчэ гарыць Хатынь», што ў гэтай маленькай рэцэнзіі на фільм нічога не гаварылася пра ўдалыя і няўдалыя планы, пра спецыфіку тэлефільма, пра пошукі тэлевізійнасці пра стыкоўкі і перабіўкі, пра ўважлівую камеру аператара. Хай даруюць мне за тое, што я наогул гаварыла не пра фільм, а пра тыя пачуцці, якія ён выклікае. Мне здаецца, што такія стужкі наогул нельга аналізаваць з халоднай галавой, бо вельмі цяжка спакойна гаварыць пра тое, што «агнём і кулямі выпалена».

**Ірына ПІСЬМЕННАЯ.**

Чаму нам насустрач выйшлі
У белых вясельных уборах,
За рукі пабраўшыся, вішні?

Чаму сярод зорных гронак,
Што ў рэчку зляцелі з кручы,
Як абручальны пярсцёнак,
Трымціць маладзік бліскучы?

У ранак, у свет жаночы
Сваіх дарагіх і любых
Пяшчотна выводзім з ночы,
Нібы з палаца шлюбаў.

●

Размывала адна бяда
берагі,
падзяляла адна вада
бераг адзін
і бераг другі.
Каб, урэшце, яны ў жыцці
насустрач змаглі пайсці
наўпрост—
збудавала любоў мост,
над вадой,
над былой бядой
у далонь
легла
далонь.
Ды падкраўшыся ціхай хадой,
запаліла нянавісць агонь.
Пад глыбінямі цёмных вод
пахавала абломкі дно.
Будавалася столькі год—
узляцела ў імгненне адно.
Скарб аплакаўшы дарагі,
ходзім сумныя—я і ты.
Будзьце пільнымі, берагі,
беражыце свае масты.

●

Ты маўчаў тады,
як білі дружбака,
Білі словам,
як кастэтам адмысловым.
Ты мычаў сабе,
што слова не рука,
Не кулак і не нагайка.
Слова словам.
Але заўтра
пад прыцэл патрапіш ты,
Дзе ад слоў шукаеш сховішча
дарэмна.
І адчуеш,
як злачынства нематы
Нас штодзённа забівае
узаемна.
Не ад куль—
часцей мы падаем ад слоў,
Кулі словамі апрануты,
як плаццем.
Невыноснаю цаной людскіх
галоў
За маўчанне палахлівае мы
плацім.
Потым будзеце старацца
напаказ,
Ды ці можа апраўдаць
перад сумленнем
Дабрата,
якую робіце не ў час,
Справядлівасць,
што прыходзіць са спазненнем?
І мяне грызе часамі пачуццё,
Што адпушчана гадоў
па норме строга.
Але знаю,
на паўторнае жыццё
Не пакінуць перавучвацца
нікога.
Каб у тых,
што поруч з намі,
не забраў
Усявышні
чалавечае цярплівасці,
Не адкладвайце на потым
добрых спраў,
Не адкладвайце на потым
справядлівасці.

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

# ЖЫВОЕ ІМГНЕННЕ

Беларусь... Гераічныя старонкі яе барацьбы. Яе зямля, яе працаўнікі і яе абаронцы — нязменная прывязанасць жывапісца П. Крахалёва, заслужанага дзеяча мастацтваў рэспублікі. Выстаўка яго твораў, прысвечаная 50-годдзю мастака, зараз з поспехам экспануецца ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР.

— Я вырас у вёсцы, — расказвае мастак. — Памятаю цяжкі час калектывізацыі, час вялікага пералому ў сялянскім лёсе і, што, бадай, яшчэ больш складана — у сялянскай свядомасці. І гэта другая рэвалюцыя, калі так можна назваць калектывізацыю, стала для мяне вядучай тэмай у творчых пошуках.

«Беларускаму мастаку П. Крахалёву, аўтару карціны «Арганізацыя калгаса», удалося перадаць вельмі жыва той пераломны час, калі перад сялянствам на ўвесь рост паўстала пытанне: або ўступаць у новае жыццё, або жыць у адзіночку», — пісаў народны мастак СССР, акадэмік Б. Іагансон у нататках аб Усесаюзнай юбілейнай мастацкай выстаўцы 1957 года.

І сапраўды: тады яшчэ малады мастак здолеў пераканаўча паказаць станаўленне першых калектыўных гаспадарак праз складаныя перыпетыі сялянскага лёсу.

А да гэтага была яшчэ карціна «Рамонтныя работы», мноства падрыхтоўчых эцюдаў, эскізаў.

Ішоў час. З'яўляліся ўсё новыя і новыя работы. Больш удалыя, менш удалыя. Пераадольваліся рысы ілюстрацыйнасці, некаторая пасіўнасць мастацкіх вобразаў.

У вядомым сэнсе кожная папярэдняя работа рыхтуе да наступных. Так, пэўнымі стадыямі на шляху раскрыцця тэмы калектывізацыі сталі для мастака яго эскізы карцін «1929 год», «Раскулачванне», «Першая баразна», раннія варыянты карцін «Першы трактар», «Трактарыст забіты», агульная задума якіх вылілася ў шматпланавае жывапіснае апавяданне «Аб зямлі, аб калектывізацыі».

Ужо ў карціне «Арганізацыя калгаса» перад намі не безаблічная маса — за плячамі кожнага з персанажаў свая біяграфія, цяжкая і непаўторная. Успомніце «Узнятую цаліну» або «Людзей на балоце»! І тут— і ў трыпціху, і ў кампазіцыі «Пералом» — розны лёс, чарада характараў, складаная палітра перажыванняў.

Цэнтральная частка трыпціха «Калектывізацыя». Па задуме і кампазіцыі, па асобных вобразных характарыстыках яна падобна на карціну «Пералом». Па агульным духу — з «Арганізацыяй калгаса». Яны падобныя і па вобразна-стылістычных прынцыпах, па інтанацыі, па пункту гледжання на падзеі. Розная толькі псіхалагічная танальнасць. А ці не гэта для мастака галоўнае?! Так што справа зусім не ў паўтарэнні прыёмаў, а ў пранікненні ў сутнасць характараў, ва ўменні зразумець і перадаць філасофію жыцця, простым і лаканічным вырашэннем узнавіць на палатне складаную тканіну псіхалогіі чалавека, яе сувязь са спрадвечнымі традыцыямі бацькоў і дзядоў і першыя крокі ломкі гэтых традыцый. І гэта П. Крахалёву ў цэлым удалося — і ў цэнтральнай частцы трыпціха, і ў карціне «Пералом».

Што зблізкае і раз'ядноўвае людзей? Што робіць іх справядлівымі ў час гневу, калі ад куляў абрэза гіне таварыш? Што надае карціне «Трактарыст забіты» вялікі эмацыянальны напал і сапраўды трагічную выразнасць? Невыпадкова тут усё дзеянне вынесена на першы план.

Вынашанае, глыбокае разуменне мастаком праўды бурнага часу — вось што ўмацоўвае асноўную канцэпцыю палотнаў.

Значны філасофскі змест трыпціха заклікае да нетаропкага і ўдумлівага суперажывання, выклікае ўсхваляваныя асацыяцыі. За знешняй прастатой сюжэтаў трыпціха, «Пералома», «Першай камуны», «Арганізацыі калгаса» адкрываецца складаны свет трывог і спадзяванняў, свет першых радасцей, свет, прасякнуты гарачым водбліскам класавай барацьбы, у якой гінулі і першыя старшыні, і селькоры, і першыя коннікі, якія скарылі жалезнага каня. Ніхто не хацеў паміраць — але класавая вайна жорсткая.

Мне здаецца, унутранай спружынай шуканняў у гэтых работах было імкненне мастака да рэзкага ўзмацнення эмацыянальнай напружанасці зместу, у першую чаргу, аўтарскіх адносін да з'яў, да іх асэнсавання.

Лагічным прадаўжэннем і развіццём пошукаў мастака ў стварэнні вобраза савецкага народа сталі яго палотны, прысвечаныя Вялікай Айчыннай вайне. Самай цікавай работай, эмацыянальна напружанай мне ўяўляецца карціна «Былыя паходы»: тут — высокі напал пачуццяў, вера ў перамогу, арганічнае адчуванне дачынення кожнага да цяжкага подзвігу краіны, народа.

На жаль, некаторая паспешлівасць, якая часта прыводзіць да спрашчэння вобразнага ладу карціны, пэўны схематызм і адназначнасць, якімі грашаць многія мастакі, не абышлі і П. Крахалёва ў палотнах «Абаронцы Брэста», «Праводзілі на фронт», «Адпомсці, сын», хоць у гэтых творах і ёсць нямала добрага ў задуме. У «Марсавым полі» не хапае, мне здаецца, каларыстычнай свежасці і вялікага зараду ўнутранай эмацыянальнай энергіі, а ў «Рудабельскай рэспубліцы» — кампазіцыйнай выверанасці дзеяння, якое павінна ўплываць на гледача не толькі шляхам разгортвання нейкай сюжэтнай канвы, а ўсімі вобразнымі выяўленчымі сродкамі: пластыкай, лініяй, фарбамі і прасторавымі аб'ёмамі. Якраз іх аўтар скарыстаў недастаткова.

У сучасны момант у жывапісе праяўляецца тэндэнцыя прынцыповай шматзначнасці. Глядач, такім чынам, становіцца ў пэўнай меры саўдзельнікам творчага працэсу. І ў гэтай сувязі, мне здаецца, у П. Крахалёва наступае той каштоўны перыяд у творчасці, які вядзе да глыбокага, эмацыянальна - паэтычнага ўвасаблення вялікай тэмы, над якой гледачу будзе аб чым задумацца, як ён сёння задумваецца над палотнамі аб зямлі, аб калектывізацыі. Бо гарачай улюбёнасці ў сваю справу, творчай радасці і добрага здзіўлення перад жыццём у П. Крахалёва хапае.



П. КРАХАЛЕЎ. Абаронцы Брэста.



П. КРАХАЛЕЎ. Партрэт Ганны Шпакоўскай з дзецьмі.

Вазьміце яго серыю дзіцячых партрэтаў! Колькі ў гэтых хлопчыках і дзяўчынках жывасці, непасрэднасці і абаяння! А жаночыя кампазіцыйныя партрэты! Гэта не вялікія палотны, не складаныя кампазіцыі з драматычнымі і псіхалагічнымі калізіямі. У іх вы не прыкмеціце аналізаў і складаных абагульненняў. Гэта — проста песня.

На выстаўцы многа пейзажаў. Некаторыя работы, як «Бярэзіна», «Азёрны край», «Ранняй вясной», «Пачатак сакавіка», «Блакітная вясна» ўнутрана закончаны, без сырой неспакойнай эцюднасці. Гэта, калі хочаце, лірычныя матывы, якія інакш не маглі быць выказаны, як у нешматслоўным «сюжэце», з перавагай уражання над складанай задумай. Сувязь з наваколлем «напрамую», як бы імправізацыйная непасрэднасць жывапіснага пісьма, абвостранае адчуванне жывога імгнення — вось прывабныя рысы і такіх работ, як «Апошні снег», «Івацэвічы», «Вясна на рацэ Вяча», «Сакавік», «Рака Іслач», «Май». Уся



П. КРАХАЛЕЎ. Бярозкі.

пейзажная частка выстаўкі ўражвае цёплым настроем прыналежнасці да зямлі, на якой сёння жывём.

Усяго толькі каля двух дзесяткаў гадоў аддзяляе першую самастойную работу П. Крахалёва ад апошніх. А колькі між імі іншых, вялікіх і малых! Колькі звязана з кожным творам хваляванняў, упартасці, імкнення пранікнуць у самую сутнасць вобраза, прыроды, характару, жыцця тых, каго ўзяўся адлюстраваць на палатне! І гэта ўсё для таго, каб глядач бачыў у мастацтве не толькі і не столькі мадэлі мастака, а яго самога, яго час — непаўторны і цудоўны.

Барыс КРЭПАК.

# ТАЛЕНТ ШЧОДРЫ, НЕПАЎТОРНЫ

## ДА 70-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МІХАСЯ ЗАРЭЦКАГА



На радзіму пісьменніка ехаў я з Магілёва праз Круглае і Талачын. Сяло Высокі Гарадзец на невялікай, але чыстай рачулцы Усвейка—адна з вёсак саўгаса «Іскра», нанава адбудаваная, заможная. Прыкмет даўніны, звязаных з жыццём пісьменніка, амаль не засталося. Непадалёк ад школы і над Усвейкай магутныя ліпы. На высокім пагорку відны рэшткі царквы і царкоўнай старожкі («калавуркі», як тут яе называлі). У гэтай калавурцы, выконваючы абавязкі царкоўнага вартаўніка, будучы пісьменнік пры святле лампадкі чытаў «усялякія кнігі, якія толькі ўдавалася знайсці». Крыху ў бок ад сяла — вялікі куст бэзу, якраз там, дзе стаяла калісьці хата мясцовага дзяка Яфіма Ануфрыевіча Касянкова. У яго сям'і 20 лістапада 1901 года і нарадзіўся сын Міхась—будучы выдатны беларускі пісьменнік Міхась Зарэцкі.

Цяжкім і складаным было жыццё Міхася Касянкова. На выхаванне сына наймацнейшы ўплыў зрабіў бацька — чалавек незалежнага нораву, «няроўнага» характару. «Магчыма, — піша М. Зарэцкі ў аўтабіяграфіі,—што мой літаратурны шлях у значнай меры вызначаны тым уплывам, які з дзяцінства аказаў на мяне бацька—чалавек з глыбока крытычным стаўленнем да жыцця, з вялікім запасам уражанняў і перажыванняў, з характарам, які дзіўна спалучаў у сабе шчырую цягу да людзей і разам з тым—панурасць, хваравітую падазронасць у адносінах да іх».

Міхась вучыўся ў мясцовай школе, у Аршанскім духоўным вучылішчы і Магілёўскай (таксама духоўнай) семінарыі. Нягледзячы на суровы клерыкальны рэжым, вучоба дала яму нямала і карысных урокаў. Пазакласнае жыццё «бурсакоў» найболей уплывала на хлопца, прывіваючы пачуцці таварыскасці, самастойнае мысленне і атэізм.

Пад час рэвалюцыі давялося «паблукаць» у пошуках хлеба і свайго месца ў жыцці. Юнак далучаецца да актыўнай грамадскай работы, асабліва ў галіне асветы. Вырашальным фактарам у станаўленні светапогляду пісьменніка з'явілася служба ў Чырвонай Арміі (1920—1927), якая, паводле яго ўласнага сведчання, «садзейнічала канчатковаму засваенню мной ідэй камуністычнай рэвалюцыі і, урэшце, зрабіла мяне камуністам».

Ужо на пачатку творчага шляху (1921) Міхась Зарэцкі з усёй сур'ёзнасцю і адказнасцю ставіцца да літаратурнай справы. «З самага пачатку, як я стаў пісаць, — гаворыць ён сам, —я пісаў па-беларуску. Захапленне літаратурнай творчасцю было ў мяне часткай рамантычнага захаплення «беларускасцю», якое заўладала мною, захапіла ідэяй адраджэння нацыянальнай беларускай культуры».

М. Зарэцкі браў актыўны ўдзел у літаратурным і грамадскім жыцці рэспублікі (аб'яднанні «Маладняк», «Полымя»), часта выязджаў у акруговыя гарады, паветы і воласці, выступаў з дакладамі, арганізоўваў мастацкую самадзейнасць, літаратурныя гурткі і г. д. Як і іншыя, больш вопытныя, сталыя пісьменнікі, М. Зарэцкі быў незадаволены распыленнем літаратурных сіл у шматлікіх групоўках, выказваўся за аб'яднанне пісьменнікаў Беларусі ў адзіны творчы саюз. «Першая і асноўная задача, — гаворыцца ў артыкуле, напісаным у сааўтарстве з М. Чаротам,—гэта супольная праца, супольныя клопаты аб узвышэнні мастацкае і ідэалагічнае вартасці нашае літаратуры, аб поўным узгодненні яе поступу з агульным поступам будаўніцтва нашае рэспублікі».

Творчая практыка самога Зарэцкага была вельмі актыўнай і плённай. Пачынаючы з 1924 года, выходзяць у свет шматлікія яго кнігі—зборнікі апавяданняў «У віры жыцця», «Пела вясна», «Пад сонцам», «42 дакументы», аповесць «Голы звер» і славуты раман «Сцежкі-дарожкі». Глыбіні жыцця, яго супярэчнасці, узнятыя Кастрычнікам сацыяльныя і маральныя праблемы, складаная, але перамагасная барацьба новага супраць старога—такі змест і пафас творчасці Міхася Зарэцкага.

Пачынаў Міхась Зарэцкі з бытавых ці лірычных замалёвак. Нейкая агністая рамантызацыя асвятляе малюнкі жыцця, прыроды, аўтарскія адступленні. Гэта тыповая «маладнякоўская» проза — паэтычная, узнёслая, якая эмоцыяй слоў, рытмікай фразы ўслаўляла новую эпоху, перамогу над старым светам.

У далейшым пісьменнік зусім не адмаўляецца ад рамантычнага стылю, прывабных асаблівасцей паэтычнай прозы. Ён увогуле з'яўляецца адным з самых яркіх прадстаўнікоў эмацыянальна-рамантычнай плыні ў нашай літаратуры. Але знікаюць крайнасці, празмерная абагульненасць. Рамантызацыя падзей і чалавека спалучаецца з канкрэтнай фабулай, псіхалагічным аналізам, глыбокім роздумам над жыццём. Гэта можна сказаць пра апавяданні «Адкупіўся», «У віры жыцця», «Цішка бабыль», «Як Настулька камсамолкай зрабілася» і асабліва пра апавяданні «Ворагі», «Двое жвіроўскіх», «Мар'я», «На маладое», «Бель», «Смерць». Тут агульная праблема ўзаемаадносін грамадскага і асабістага. Але кожны раз непаўторнасць канкрэтнага канфлікту, рэзкая абвостранасць сацыяльна-маральных і псіхалагічных сутыкненняў персанажаў. Пісьменнік прасочвае (можа, не заўсёды глыбока), як эпоха рэвалюцыі, новы час адбіваюцца ў душах людзей, перайначваюць іх асабісты лёс, вызначаюць іх месца ў жыцці.

Несумненна, яркую творчасць Зарэцкага жывіла героіка рэвалюцыі, успрынятай як велічнае, незвычайнае свята працоўных. Страсна сцвярджаючы героіку сацыялістычнай эпохі, Міхась Зарэцкі з неменшай сілай выкрывае нэпмана, мешчаніна, чалавека-індывідуаліста і яго звярыную філасофію (аповесць «Голы звер», апавяданні «Ой, ляцелі гусі...», «Максімаліст» і інш.). Праўда, тут заўважаецца некаторае супрацьстаўленне грамадскага і біялагічнага ў чалавеку, прычым супрацьстаўленне абстрактна-філасофскае. Відаць, такое тлумачыцца кніжнымі запазычаннямі, станаўленнем светапогляду і таленту пісьменніка, пошукамі заглыбленага пранікнення ў сферы падсвядомага, у псіхалогію чалавека.

У канцы 20-х гадоў Зарэцкім напі-

# ЛАЎРЭАТЫ КУПАЛАЎСКІХ ПРЭМІЙ

*ВЕЧАР У МУЗЕІ ПЕСНЯРА*



Заўчора, 17 лістапада, на ласкавае «Запрашаем у Дом Купалы» ў Літаратурным музеі народнага песняра сабраліся шматлікія аматары і прыхільнікі роднай паэзіі. Тут адбыўся першы з літаратурных вечароў «Паэты Купалаўскіх прэмій», якія праводзіць музей напярэдадні 90-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы.

— Сярод усіх помнікаў нашаму народнаму паэту, — гаварыў, адкрываючы вечар, дырэктар музея Уладзімір Юрэвіч, — найвялікшым і неўміручым з'яўляецца беларуская савецкая літаратура, ля калыскі якой стаялі Янка Купала і Якуб Колас. Вышэйшай ацэнкай творчасці нашых паэтаў і празаікаў стала наданне ім звання лаўрэатаў Купалаўскай і Коласаўскай прэмій. Сёння ў нас сустрэча з адным з самых слынных вучняў Купалы, з лаўрэатам прэміі яго імя, выдатным нашым паэтам Петрусём Броўкам.

Слова пра П. Броўку, пра тое, як жывуць у яго творчасці традыцыі Купалы, зрабіў кандыдат філалагічных навук М. Ярош.

З вялікай увагай слухалі прысутныя выступленне старэйшага нашага паэта. Пётр Усцінавіч расказаў пра свае сустрэчы з незабыўным Янкам Купалам, пра тое, як вучыўся і вучыцца ў яго, прачытаў вершы, прысвечаныя памяці народнага песняра.

Потым вершы П. Броўкі чыталі студэнты Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута Уладзімір Волікаў і Марыя Вінакур.

Закончыўся вечар музычнай часткай: салісты Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета Ірына Шыкунова і заслужаны артыст БССР Аркадзь Саўчанка праспявалі творы беларускіх кампазітараў на тэксты П. Броўкі.

Фота Ул. КРУКА.



# КАРОТКІЯ

Уладзімір АЛЯХНОВІЧ

## МАЛЮНАК НА ПЯСКУ



Мы жылі на хутары. Наша хата стаяла ў гушчары чаромхі і бэзу. Яна была невялічкая, прыземістая, з зеляніны выглядвалі на свет толькі два акны ды лапіна саламянай страхі. З аднаго боку хаты быў агарод, абнесены няроўным высокім плотам з яловых карэнняў. Далей, ва ўсе бакі, раскінуліся лугі. Толькі воддаль быў бачны досыць вялікі пясчаны ўзгорак, на якім стаяла калматая сасна. Прыбітая вятрамі і дажджамі, яна здалёк нагадвала чорны воўчы грыб на крывой ножцы.

Збоч хаты ішла пясчаная дарога. Пясок на ёй быў дробны і жоўты, прамыты дажджамі. Другіх хутароў паблізу не было і таму сябрукоў у той час я не меў і гуляў адзін. А як можна аднаму? Нельга пагуляць у жмуркі ці ў вайну, альбо проста пабегаць, даганяючы адзін аднаго. І я маляваў, маляваў на пяску. Асабліва хораша маляваць на пяску пасля дажджу, калі ён вільготны.

Неяк бабулька Ганна мне расказала, што за Дзяржынскай шашою ёсць дрымучы бор, а пасярод яго—Бяздоннае возера. Мне вельмі хацелася ўбачыць той бор і бліскучае люстэрка вады, бо паблізу ў нас ні лесу, ні возера не было. І я аднойчы намаляваў на пяску зубчаты бор на схіле гары, возера і сонца над ім. На хвалях возера маленькую лодку і ў лодцы такога ж маленькага хлопчыка.

Маляваў я, лежачы на жываце. У той дзень свяціла ласкавае сонца і я, паравярнуўшыся на спіну, падставіў пад яго праменні твар. Заплюшчыў вочы. І тут сапраўды ўбачыў сябе ў лодцы. Яна ціха плыве па срабрыстых хвалях, а побач растуць нейкія белыя-белыя кветкі. Міма праплываюць прыгожыя хвастатыя птушкі. У далечыні нешта ціхенька пагруквае, гэта ідзе навальніца. Але сюды яна не прыйдзе, бо не асмеліцца засланіць роўнядзь чароўнага возера.

— Тпру!—пачуўся зычны голас.

Прапалі возера, лодка, кветкі і птушкі. А нада мною стаіць вусаты дзядзька Сцяпан, ён кожны дзень возіць з вёскі на шашу бідоны з малаком.

— Зноў ты заснуў на дарозе, Алеська,—з дакорам сказаў дзядзька.—А што ты такое тут намаляваў?

Дзядзька Сцяпан нахіліўся ніжэй, каб лепей разгледзець малюнак, усміхнуўся. Потым прысеў на кукішкі, пагладзіў рукой мяне па валасах, сказаў:

— Малайчына, хлопчык, малюй. У цябе гэта добра выходзіць.

Дзядзька падняўся, сеў на воз і, ад'язджаючы, кіраваў каня так, каб не наехаць на малюнак на пяску.

## ШАЛЁНЫ ВОЎК



У школу мы хадзілі за чатыры кіламетры. Дарога перасякала Доўгі луг, невялікі Маляўскі лясок, потым вяла полем. Добра было хадзіць зімою цераз лес, там менш ветрана ды і снег не такі глыбокі. Дзе і надзьме вялікі снягур, дык яго можна абысці. Горш у полі. У лагчынах па пояс снегу, а на ўзгорках—галалёд, вецер. Асабліва цяжка было ўзбірацца на Скопаную горку. Калісьці яе трохі скапалі, бо нават самыя дужыя коні не выцягвалі тут вазы, але і цяпер Скопаная высокая—змакрэе спіна, пакуль узбярэшся.

Па гэтай дарозе хадзіла ў школу нас, хутарскіх хлапчукоў, чалавек сем. З іх я быў самы малы і таму часта адставаў па дарозе. Праз лес дык яшчэ цягнуўся, а ў полі не паспяваў.

Нядаўна ў нашых мясцінах паявіўся шалёны воўк. Аб гэтым толькі і гаварылі: на Грудкаўскім хутары перадушыў шмат гусей, у Варонічах сцягнуў авечку, а ў Выганаўскім лесе ўкусіў лесніка... Мы вельмі баяліся гэтага ваўка і хадзілі ў школу цеснай гурбой і з кадзіламі. Але пакрысе чуткі пра ваўка прыціхлі, і мы забыліся пра яго.

Аднойчы я адстаў ад хлапчукоў яшчэ ў ляску—зачапіўся за корч і ўпаў. Калі падняўся, то заўважыў, што адарваўся гузік ад кажушка. Доўга прыйшлося поўзаць на каленях па снезе, пакуль знайшоў. Калі выйшаў на ўскраіну, то хлопцы ўжо ўзбіраліся на Скопаную горку.

Гора мне было з ботамі. Трафейныя, цяжкія. Абцасы стаптаны і боты выкручвалі ногі. Напэўна, немец, які насіў іх да мяне, быў дужа касалапы.

— Падбіў бы хлопцу боты, а то зусім скрывіць ногі,—не раз гаварыла бацьку маці.

Але таму было не да гэтага: у пачатку зімы рубіў хлеў, а цяпер паехаў недзе далёка вывозіць лес.

І вось я цягнуўся па глыбокім снезе цераз лагчыну, праклінаючы ў думках таго крываногага

саны п'есы «Віхор на балоце» і «Белыя ружы». Зварот да драматургіі быў падрыхтаваны папярэдняй мастацкай практыкай, унутранай і знешняй драматызацыяй дзеянняў у празаічных творах. П'есы ўзбагачаюць творчую лабараторыю, выяўляюць плённыя магчымасці пісьменніка ў новым для яго жанры. Тым не меней глыбока арыгінальны талент Міхася Зарэцкага найбольш поўна і ярка раскрываецца ў прозе. Яго пяру належаць лепшыя нарысы таго часу—«Падарожжа на новую зямлю», «Лісты ад знаёмага» і «Вясна 1930 года», надзвычай змястоўныя, цікавыя і непаўторныя раманы «Сцежкі-дарожкі» (1927), «Крывічы» (1929), «Вязьмо» (1932). Яны прысвечаны надзённым праблемам жыцця народа.

Відаць, ёсць патрэба сказаць, што ў свой час творы Міхася Зарэцкага, асабліва «Падарожжа на новую зямлю» і «Крывічы», падвяргаліся жорсткай вульгарна-сацыялагічнай аперацыі, а іх аўтар абвінавачваўся ў нечуваных грахах. Зразумела, з цягам часу ўсё становіцца на сваё месца. Аб рамане «Крывічы» гаварыць асабліва не выпадае, бо рукапіс твора недзе загінуў, хоць па апублікаваных урыўках можна меркаваць, што ў ім ставілася праблема сацыяльнага і нацыянальнага абнаўлення Беларусі ў працэсе рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва. А што датычыцца нарыса «Падарожжа на новую зямлю», дык гэта, думаецца мне, цудоўная, своеасаблівая паэма «Над ракой Арэсай» у прозе. Аўтар нарыса адпявае старое Палессе і ўрачыстай песняй услаўляе «маладую задорную БССР», раздумвае ўслых аб вялікіх магчымасцях народа ў галіне матэрыяльнай і духоўнай культуры.

Міхась Зарэцкі — пісьменнік сацыяльны. Вялікія падзеі эпохі, прыватны лёс людзей, інтымныя гісторыі, уласнае жыццё—усё гэта з'яўляецца ў творах пісьменніка прадметам сацыяльнага аналізу. Да лепшых твораў савецкай літаратуры, у якіх шырока і яскрава адлюстраваны эпахальныя падзеі нашай эпохі — рэвалюцыя і калектывізацыя, адносяцца раманы «Сцежкі-дарожкі» і «Вязьмо».

У першым з іх М. Зарэцкі сцвярджае гуманістычны змест Вялікага Кастрычніка. Перад намі ўзнаўляецца лёс прадстаўнікоў розных сацыяльных класаў і груп ва ўмовах класавай барацьбы, духоўнае абнаўленне чалавека, які змагаецца за сацыялістычныя ідэалы. У рамане дзейнічаюць рабочыя, сяляне, гарадскія мяшчане, памешчыкі, інтэлігенты. Аднак рэвалюцыйныя падзеі ў губернскім горадзе і навакольных вёсках падаюцца праз успрыманне самапаглыбленага і летуценнага семінарыста Васіля Лясніцкага. Менавіта ён у гушчы падзей, у сутыкненнях з людзьмі розных палітычных інтарэсаў — анархістам Халімам, народнікам Матрунiным, памешчыкамі Карлам Шэмпелем і Раісай Яновай, камуністамі Багуном, Андрэем, Нінай. Ідэйна-псіхалагічны і эмацыянальны змест «Сцежак-дарожак» —жыццёвы шлях Лясніцкага, яго погляды, сумненні, перажыванні, інтымны свет, складаная і цяжкая ўнутраная эвалюцыя героя, карацей кажучы, пошукі інтэлігенцыяй свайго месца ў рэвалюцыі. «Паслаліся перад вачмі бязмежныя сцежкі-дарожкі, перапляліся пераплётам заклятым — не згадаць, па якой трэба пайсці, каб патрапіць на правільны шлях». Вось галоўнае пытанне, на якое павінны даць недвухсэнсоўны адказ герой і аўтар.

На працягу ўсяго твора развенчваюцца антысацыялістычныя ці правінцыяльна-рамантычныя ўяўленні і заблуджэнні інтэлігенцыі (Матрунін, Халіма, Славін), паказваецца той шлях, па якім лепшыя прадстаўнікі інтэлігенцыі ідуць да палітычнай сталасці, да разумення ленінскай праўды.

На рубяжы 20—30-х гадоў Міхася Зарэцкага асабліва хвалявала праблема сацыяльнага «разлому» на вёсцы. Гэтаму і прысвечаны раман «Вязьмо», які з'явіўся прыкметным дасягненнем самога пісьменніка і ўсёй беларускай прозы 30-х гадоў.

Канфлікт рамана—барацьба новага чалавека-калектывіста і чалавека-ўласніка. Пераўтварэнні на вёсцы адлюстраваны з пункту гледжання высокай гуманістычнай ідэі: перабудова жыцця ў імя чалавека і з любоўю да чалавека.

У рамане ўзнаўляюцца драматычныя сітуацыі эпохі, створаны адметныя людскія характары—прыхільнікаў калектывізацыі і яе ворагаў. Гэта камуністы Лакота, Зелянюк, Карызна, кулак Гвардыян і яго памагатыя. Барацьба за новае, сацыялістычнае жыццё на вёсцы мае сваю крывую абвастрэнняў і спадаў, але ўрэшце завяршаецца перамогай працоўнай беднаты. «Наш шлях быў нялёгкім, — гаворыць важак калгаснага будаўніцтва Якуб Лакота,—на ім было многа каўдобін, у якіх мы здорава грузлі, але пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі мы перамаглі ўсе перашкоды і выйшлі на роўную цвёрдую дарогу...»

У першай палове 30-х гадоў па рамане «Вязьмо» была зроблена драматызаваная аповесць «Сымон Карызна», напісаны кінасцэнарый «Пачатак шчасця», п'еса «Ная». Пісьменнік жыў новымі творчымі планамі і задумамі. Ды задумам гэтым не суджана было здзейсніцца: жыццё яго абарвалася ў самым росквіце сіл...

Міхась Зарэцкі — пісьменнік шчодрага, непаўторнага дару, адзін са слаўных пачынальнікаў беларускай савецкай прозы. Яго лепшыя творы і сёння хвалююць грамадзянскім пафасам, драматызмам падзей, жывымі чалавечымі страсцямі.

Споўнілася 70 год з дня нараджэння Міхася Зарэцкага, а да гэтага часу перавыдадзены толькі раманы «Сцежкі-дарожкі» і «Вязьмо». Найлепшым ушанаваннем светлай памяці пісьменніка было б выданне збору яго твораў.

**Мікола ЛУФЕРАЎ.**

# ЧАРГОВЫ, КАРАЛІШЧАВІЦКІ...

**Стала ўжо традыцыяй, што ў канцы года Саюз пісьменнікаў Беларусі праводзіць творчыя семінары літаратурных пачаткоўцаў. Праз два дні, 22 лістапада, у Доме творчасці імя Якуба Коласа ў Каралішчавічах пачынае сваю работу чарговы такі семінар.**

**Сёлетні семінар у параўнанні з папярэднімі мае шэраг асаблівасцей. Па-першае, для ўдзелу ў яго рабоце запрошаны пераважна тыя маладыя паэты і празаікі, якія ўжо выдалі свае першыя кніжкі (журналістка з Мінска Валянціна Коўтун, настаўніца з Горак Нэла Тулупава, піянерважатая з Гомеля Ніна Шклярава, супрацоўнік Клімавіцкай раённай газеты Мікола Мінчанка, журналіст са Жлобіна Мікола Янчанка, настаўнік з Брэстчыны Алесь Разанаў) альбо падрыхтавалі іх да друку (мастак з Аршанскага ільнокамбіната Леанід Калодзежны, журналіст з Салігорска Анатоль Крывіцкі, ваеннаслужачы Алесь Жук, брэсцкі журналіст Васіль Жуковіч, супрацоўнік Мазырскай раённай газеты Уладзімір Рудзінскі). Па-другое, найбольш шматлікую групу ўдзельнікаў семінара складаюць сёлета маладыя празаікі, у той час як на ранейшых такіх творчых сустрэчах пераважалі паэты. І, па-трэцяе, сёлета ў Каралішчавічах упершыню будзе працаваць творчая секцыя маладых крытыкаў (рабочы Мінскага станкабудаўнічага завода імя Кірава Анатоль Псікаў, аспірант Гомельскага універсітэта Радзівальт Літвінаў, бібліятэкар з Пухавіцкага раёна Віктар Рабкоў і іншыя).**

**Кіраваць работай творчых секцый (па жанрах) запрошаны вядомыя нашы паэты, празаікі, крытыкі і літаратуразнаўцы.**

## Гастролі ў братняй Латвіі

Сёння ў Даўгаўпілсе спектаклем «Прачніся і спявай» М. Дз'ярфаша пачынаюцца гастролі Магілёўскага тэатра драмы і камедыі, які працуе ў Бабруйску. Малады творчы калектыў за два тыдні пакажа яшчэ тры спектаклі: «Трыбунал» А. Макаёнка, «Даходнае месца» А. Астроўскага і «А зоры тут ціхія...» паводле аповесці Б. Васільева.

Са спектаклямі беларускага тэатра пазнаёмяцца жыхары Рэзекнэ і іншых гарадоў і пасёлкаў братняй рэспублікі.

# АПАВЯДАННІ

немца, што сапсаваў боты. Снег мокры, рыхлы, і я іду, нізка апусціўшы галаву, трымаючыся па слядах сябрукоў.

Нечакана пачуў далёкія галасы. Калі ўскінуў галаву, то ўбачыў хлопцаў на Скопанай. Яны сталі там гуртам і чагосьці рашуча махалі рукамі. І тут даляцеў да мяне страшны вокліч:

— В-о-о-ў-к!..

Аглянуўшыся, я ўбачыў яго—воўк шыбаваў, высока пераскокваючы снегуры, ад Выганаўскага лесу.

Мяне ахапіў жах, здранцвелі ногі, і я не мог нават зварухнуцца. Зірнуўшы ў бок Скопанай, заўважыў, што хлапчукі схаваліся па той бок гары.

Воўк быў блізка, і трэба было ўцякаць. Сабраўшы апошнія сілы, зрабіў крок—другі, праслізгнуўся і ўпаў. Калі ўзнімаўся, з нагі з'ехаў шырокі нямецкі бот, і я пабег пад гару, кульгаючы і цягнучы за сабой доўгую анучу.

Нешта ўсё больш і больш сціскала горла, не хапала паветра, салёны пот і слёзы залівалі вочы...

Калі ўзбег на горку, ледзь не наляцеў на чалавека, што бег насустрач з сякерай. Апошняе, што я пачуў, трацячы прытомнасць, як страшна завыў, заскавытаў воўк.

Мяне выратаваў дзядзька Сцяпан. Той самы, што пашкадаваў мае малюнкі на пяску.

## ВАРАНЁ




ЯЦЕЛА У ВОГНІШЧА ламачча, цягнуліся да маўклівых яловых лап языкі полымя, моцна крычала варона. Яна сядзела на верхавіне высокай елкі і, здаецца, сваім гартанным голасам пасылала нейкія трывожныя сігналы.

— І чаго яна раскрычалася? — кідаючы ў агонь чарговага рака, сказаў Васька.—Мо на елцы гняздо, падлез бы, Мішка...

Міша Пявун, рабы, цыбаты хлопец, прыжмурыў вока і паглядзеў на елку.

— Нешта ёсць,—сплюнуўшы праз зубы ў вогнішча, аўтарытэтна адказаў ён. — Толькі высока лезці.

— Падлезь, Мішка, падлезь, — зноў папрасіў Васіль.—Мо яйкі ёсць.

— Якія там яйкі. Канец ліпеня,—адказаў Міша. Але ж падхапіўся, падцягнуў штаны і пабег да елкі.

З Ваською і Мішкам, маімі сябрукамі, я часта лавіў ракаў у Акоўцы. Рэчка тут цячэ цераз Выганаўскі лес і пад карчамі іх шмат. Ляжаш на бераг, запусціш руку пад корч і мацаеш. А ён, дурань, спяшаецца схапіць кляшнёй за палец.

Пяклі ракаў мы тут жа ў лесе. Высыпалі з шапак у адно месца, а потым раскладвалі на тры кучкі: спачатку буйнейшых, а там драбнейшых. Калі які рак аказваўся лішнім, ён ляцеў назад у Акоўку. Гэта каб паміж намі не было сваркі.

Раптоўна варона закаркала мацней, падхапілася з верхавіны і шуганула туды, дзе варушыўся на елцы Мішка. Там пачалася мітусня. Быў чуцён толькі адчайны крык вароны, ляцела пер'е, ды ўздрыгвалі яловыя галіны.

Па ствале елкі амаль скаціўся Мішка. Ён бег ва ўвесь дых да нас, трымаючы ў адной руцэ дзягу і падтрымліваючы гэтай жа рукой штаны, у другой было даволі вялікае варанё. Па шчацэ Мішы цякла кроў.

— Во, халера, дзеўбанула,—падаючы на траву, адным выдыхам сказаў Мішка.

Варона недзе адляцела і цяпер яе не было чуваць. Варанё ляжала з закручанымі крыламі ля ног Мішы. Яно цяжка дыхала шырока адкрытай дзюбай, рыўкамі ўзнімаючы волле, і з нейкім жахам вадзіла з боку ў бок вачыма.

— Зараз мы вырадка падсмажым,—устаючы, сказаў Мішка.

— Можа нявapта,—запярэчыў Васька. — Давайце лепш аднясём дадому, у мяне ёсць клетка.

— Гавары тут мне,—не згадзіўся Міша. — Нядаўна варона ўкрала ў нас куранё. Душыць іх трэба, гадавак...

Міша падняў варанё і ўжо намерыўся кінуць у агонь. Мяне быццам пацяло токам. Я кінуўся да сябрука і стукнуў яго па руцэ. Варанё ўпала на зямлю і з нейкім грудным піскам, падскокваючы, пабегла. У адно імгненне каля яго плюхнулася варона, падхапіла і знікла ў гушчары.

— Усё-такі, калі другі раз злаўлю вырадка, то спалю,—адкручваючы хвост у рака, мармытаў сабе пад нос Міша.

Але другога разу не было: вараняты хутка падраслі і паляцелі, а да наступнага лета падрос і Мішка.

## ДЗІКІ КОТ




ЭТАЯ ХАТКА стаяла на ўскрайку Выганаўскага лесу. Яна нават не зусім нагадвала хату, бо была вельмі малюсенькая, без сенцаў, і мела толькі адно падслепаватае акно. Над саламянай страхой, на якой ад зімы да зімы цвіў купінамі мох, шалясцеў жорсткім лісцем таўшчэзны дуб. Каля хаты—ні адрыны, ні хлеўчыка, бо ў бабыля дзеда Мацея, які жыў у гэтай хатцы, акрамя рудога ката Чыха, ніякай жывёлы не было.

Людзі расказвалі, што калісь Мацей працаваў лесасекам у Выганаўскім лесе. Была ў яго жонка Маня і двое сыноў. У вайну сыны пайшлі на фронт і не вярнуліся, а Маня трапілася на дарозе п'яным паліцаям і яе забілі. З таго часу і жыў дзед Мацей бабылём. Жыхары з суседняй вёскі не раз гаварылі Мацею, каб ён будаваўся і пераязджаў да людзей у вёску. Але стары і слухаць не хацеў. «Позна мне ўжо будавацца,—гаварыў ён. — Восьмы дзесятак пайшоў. Дажыву свой век у лесе».

І пасмейваліся вяскоўцы з яго. «Не, каб трымаць парсючка ці кароўку, дык на табе—катадармаеда»,—гаварылі адны. «У Мацея і мышам няма чым паласавацца»,—разважалі другія.

Асабліва шмат было гаворак у вёсцы пра адно паляванне дзеда Мацея. Аб гэтым расказвалі вяскоўцы зімой на вечарынках і ў летнія прыцемкі, калі збіраліся на прызбе лушчыць семачкі.

Пайшоў неяк Мацей у лес на барсука—напярэдадні нагледзеў нару—і кот Чых бяжыць наперадзе яго, як сабачка. Бяжыць і жаласліва мяўкае, быццам адчувае нейкую бяду. Ішлі на барсука, а тут, адкуль ні вазьміся, ліса. Мацей ускінуў стрэльбу, націснуў на курок—асечка. А ліса тым часам асядлала ката, б'юцца—аж поўсць ляціць. Падбег дзед, адагнаў лісу, а Чых увесь у крыві. Загарнуў Мацей ката ў кашулю і панёс дахаты. Тры тыдні выходжваў ён Чыха, як хворае дзіця: змазваў нейкай маззю раны, клаў кампрэсы і нават кожную раніцу хадзіў у вёску купляць свежае малако. І ачуняў Чых.

Хаця многія ў вёсцы пасмейваліся з Мацея, мы, хлапчукі—Васька, Мішка і я, дзеда вельмі любілі. У ціхія летнія вечары дзед выходзіў з хаткі, садзіўся на шырокую калоду, на якой звычайна сек ламачча, і расказваў нам усякія гісторыі. Аказваецца, недалёка ад нас, за Выганаўскім лесам, жыве царэўна-прыгажуня і ў яе ёсць тры дачкі-лябёдкі. Страшыдла-лясун ужо даўно хоча падпільнаваць адну з лябёдак, каб украсці і забраць сабе ў жонкі...

Мы слухалі дзеда і з нейкай радаснай трывогай глядзелі на махнатыя яліны і стромкія сосны Выганаўскага лесу, лавілі далёкае «ку-ку» і спадзяваліся, што вось-вось на палянцы з'явіцца царэўна-прыгажуня і яе беласнежныя дочкі-лябёдкі. І яшчэ мы пакляліся, што абавязкова абаронім іх ад страшыдлы-лесуна...

Увосень дзед Мацей захварэў і памёр. Пахавалі яго тут жа ля хаты. Хату разабралі на дровы, засталася толькі цагляная печ з разваленым задымленым комінам. Ката Чыха ўзяў да сябе дзядзька Сцяпан, але кот збег у першую ж ноч на магілу Мацея... Хацелі злавіць Чыха, але ён не падпускаў нікога да сябе.

Пасяліўся кот у падпечку былой Мацеевай хаты і жыве там зімою і летам. Кажуць, начамі ён бегае на магілу дзеда і доўга жалобна мяўкае.

Вяскоўцы, праязджаючы каля разваленай печкі, расказваюць спадарожнікам: «Жыве тут дзікі кот... Дзіўны быў чалавек яго гаспадар, Мацей...»

СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# ЗАВЯЗЬ ТАЛЕНТУ

ГАРАЧАЯ хваля пяшчоты, радасці, любві да свету і жыцця захліствакоць усю істоту маладой паэтэсы Ніны Шкляравай, якой належыць толькі што выпушчаная выдавецтвам «Беларусь» кніга вершаў «Мая вёска». У вершы «Мой верш» аўтар шчыра прызнаецца: «Напісаць хацела пра вайну, ды дзіця спрасоння засмяялася! Выйшаў верш пра шчасце і вясну...» Потым — «напісаць хацела пра бяду, ад якой яшчэ балела рана...», але «кукарэкнуў певень у садку—і у вершы задыміўся ранак», хацелася напісаць пра зло, ды на калені ўзабралася сястрычка—і выйшаў верш пра дабрату.

І гэта натуральна, так і трэба: лепш напісаць, горача і праўдзіва, пра тое, што сапраўды хвалюе цябе, чым выдумваць пачуцці. Праўда ўласнага пачуцця — галоўнае ў паэзіі, яе пачатак і канец.

Канечне, гэту праўду трэба яшчэ «знайсці», выявіць. Трэба яшчэ, каб перажыванне было змястоўным. Каб дасягнуць гэтага, паэт павінен і перажываць сваё пачуццё і глядзець на яго як бы збоку, быць і ў ім і па-за ім, інакш, па-першае, і сам не разбярэцца ў сваіх адчуваннях, а, па-другое, не даб'ецца і суперажыванняў у чытача. Н. Шклярава—толькі яшчэ на подступах да вырашэння гэтай неверагодна цяжкай задачы. Справа ўпіраецца ў праблему валодання словам. Калі паглядзець на кнігу «Мая вёска» з гэтага пункту гледжання, то, здаецца, з яе выданнем можна было нават крыху памарудзіць. Менавіта па той адзінай прычыне, што большасць вершаў яшчэ «не адстаялася ў слове», іх эмоцыя нібы расцякаецца па паперы, г. зн. у значнай сваёй частцы губляецца.

Узяць хоць бы рыфмы. Н. Шклярава рыфмуе вельмі прыблізна, нават нібы наўмысна неахайна. Дрэнныя рыфмы тырчаць, як спружыны з канапы. Н. Шкляравай, здаецца, проста не хапае цярпення. У адной страфе яна рыфмуе «раненька — дранікаў» і «соладка—соланкі», а ў наступнай—«паставіць — засмажыць, парай — салам» (верш «Маці»). У першым выпадку — музыка галосных і зычных, якія чаргуюцца, у другім — выпадковых, аддаленых сугуччаў.

Але справа, вядома, не толькі ў рыфмах. Замнога ў вершах Н. Шкляравай сцёртых, зношаных слоў. Зразумела, адкуль бяруцца ўсялякія «духмяны», «блакітны», «сіні», «краса», «шумлівыя лясы», «зялёныя гаі», «залатое сонца»—яны адпавядаюць таму душэўнаму стану, у якім пакуль знаходзіцца паэтэса, яны шчырыя, як усё ў яе вершах, але для чытача яны ўжо амаль нічога не значаць і не адкрываюць. Пройдзе два-тры гады, і перачытваючы сваю першую кніжку, Н. Шклярава сама, мабыць, заўважыць, як няўклюдна выказвала яна свае думкі і пачуцці, камечучы радкі ненатуральнымі інверсіямі. Вось прыклады:

**Калі ж частавалі лазоваю ласкаю —**
**Мой крык у другім канцы чулі сяла...**

**З коміна дым сцелецца дугою**
**З пахам перасмажаных грыбоў...**

**На лоб альховы**
**Лісток прыліп...**

**Дзе, скажыце, адшукаць мне сэрца,**
**Побач біцца каб з маім магло?..**

**Хай жа будзе**
**Мядовай ніва,**
**Што ўзрасціла**
**Цябе яна...**

Як нестае гэтым радкам натуральнасці гучання!

Нарэшце, у кнізе «Мая вёска» надараюцца вершы, напісаныя як быццам без пэўнай задумы, якая б пранізала ўвесь верш ад пачатку да канца. У якасці прыкладу можна назваць, скажам, верш «Хачу быць...», дзе паэтэса, мне здаецца, сама заблыталася ў тым, кім жа ёй «хочацца быць»: грэшніцай, святой, манашкай або, на благі канец, «жаркаю, да сораму, рабінай»...

А вось верш «Смага». Тут ёсць усё: і калодзежная вада, і зара, і трактар, і «аднагодак мілы», і цішыня, і зноў жа «блакіт», а яшчэ—і такое:

**Мацярынства святое зямлі**
**І адчайнасць (!) вялікіх пачуццяў,**
**Нібы шчодрасць людской цеплыні**
**У юнацтве знаходзіць сутнасць...**

Цяжка рабіць з гэтага нейкія высновы, цяжка дайсці да сэнсу гэтых цьмяных радкоў.

З усяго сказанага можна зрабіць вывад, што маладой паэтэсе трэба прайсці яшчэ немалы шлях творчай вучобы.

Але нельга не сказаць пра лепшае, што ёсць у кнізе, пра тыя вершы, якія дазваляюць меркаваць пра магчымасці аўтара і даюць пэўнае ўяўленне пра творчае аблічча маладой паэтэсы.

Характар лірычнай гераіні «Маёй вёскі» — вельмі прывабны: і пяшчотна-жаноцкі, і чалавечна-цвёрды. Яна не баіцца выпрабаванняў, што могуць выпасці на яе долю. «Могуць» — таму што ў гаворцы пра гэта пакуль што ўсё-такі больш дэкларацыі, чым жыцця, больш магчымага, чым наяўнага:

**Як стала дарослай — дарогі каменні,**
**Здзіраючы скуру, кацілі пад ногі...**
**Ды ўсё ж я маўчу, не згінаю калені...**

Каменні і дарогі — гэта, канечне, яшчэ ўмоўна, алегарычна, а вось ужо зусім рэальнае — «Боль»: гераіня папярэджвае каханага, каб ён не баяўся, што радкі яго пісьма прынясуць ёй пакуты:

**Не, не трэба цадзіць, як праз сіта,**
**Боль, што можа ўраз апячы.**
**Мы таксама не лыкам шыты,**
**Мы надзенем на боль абручы.**
**Мы сашчэпім так пальцы, што цені**
**У смяшлівых вачах замігцяць...**

Вядома, праз сіта сеюць, а не цэдзяць, але наогул гэта не мяняе ўражання ад верша, у якім адбіўся па-жаноцку горды, непахісны характар гераіні. Той жа матыў гучыць і ў вершах «Не шкадуйце» і «Прыходзь», у цудоўнай, па-сапраўднаму народнай прымаўцы, якую—не ўтрымаюся — прывяду цалкам:

**Каціўся яблык па роснай траве...**
**Ты мяне любіш, а я цябе—не!**

**Прэч ідзі, прэч!**
**Адразу гара з плеч...**
**Цацілася торба з высокай гары,**
**А ў той торбе што хочаш — бяры.**
**Хлеб, соль, пшаніца...**
**Ты не хочаш на мне ажаніцца?**

**Каціўся яблык**
**Ружовага колеру...**
**Ты мяне любіш,**
**А я цябе болей...**

Многа вершаў Н. Шкляравай прысвечана роднай вёсцы — адсюль і назва зборніка. Н. Шклярава — у вёсцы, у свеце дзяцінства, палёў, лясоў, рэчкі Цярухі, у родным доме (больш поўна гэта адлюстравалася ў вершы «Родная хата»). З задавальненнем і гордасцю канстатуе Н. Шклярава сваё сялянскае паходжанне («Дачка селяніна — я змалку сялянская»). Але яна не ўсведамляе (і, бадай, добра, што не ўсведамляе, інакш, можа, выйшла б няпраўда) таго факта, што горад яе перарабіў ужо на свой лад або што гэта перароблка ідзе вельмі хутка. Адкуль гэта відаць? Ды хоць бы адтуль, што кахае лірычная гераіня зусім «па-гарадскому» (а для жанчыны каханне — галіна найбольшага праяўлення). Вось, скажам, у цытаваным вершы «Хачу быць»— хіба ў ім вясковая дзяўчына або жанчына? Хіба гэта яе псіхалогія: хачу быць святой, грэшніцай, спакусніцай, манахіняй і г. д. Не, канечне. Або вось:

**Не шкадуйце вы мяне — я выжыву!**
**Жонкаю няверная ці любоўніцай,**
**Ці, як людзі кажуць, трэцяй лішняю...**

Усё гэта гаворыцца і цытуецца не ў дакор маладой паэтэсе, наадварот, я вітаю і гэтую праўду ў яе вершах. А праўда гэтая заключаецца ў тым, што пачуццямі гераіня яе вершаў (галоўнымі пачуццямі яе, любоўнымі) —у горадзе: яна не чакае свайго каханага пакорліва, уючы вянок з рамонкаў за каем, не ўздыхае, седзячы ля расчыненага акна. Яна выступае ініцыятарам сустрэчы:

**Дык хутчэй прыходзь, чаго чакаеш?**
**Будзе лепей так абоім нам...**

І гаворыць усё гэта — аб раздвоенасці чалавечай істоты, аб несумяшчальным біцці сэрца і думкі. Не кажучы нічога пра горад, Н. Шклярава гаворыць пра дыялектычна супярэчлівае ў ім.

І гэта, як ні дзіўна можа здацца, больш за ўсё пераконвае мяне ў тым, што талент маладой паэтэсы і несумненны, і арганічны.

**Фёдар ЯФІМАЎ.**

Ніна Шклярава. «Мая вёска». Першая кніга паэта. Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1971.

# РЭВАЛЮЦЫЯЙ НАТХНЁНЫ

Неўзабаве пасля пераезду ўрада маладой савецкай дзяржавы з Петраграда ў Маскву ў Крамлі быў створаны Курсанцкі тэатр. Ён даваў спектаклі, галоўным чынам, для байцоў аховы Крамля. Адным з кіраўнікоў тэатра быў юны літаратар і энтузіяст аматарскай сцэны Юрый Тарыч. Ён супрацоўнічаў з маладымі тады, а пазней вядомымі дзеячамі савецкага мастацтва—з рэжысёрам і акцёрам М. Нарокавым, рэжысёрам А. Роомам, паэтам У. Лугаўскім, кампазітарам Д. Васільевым-Буглаем і іншымі. «Марат», «Выбух на Лявонцьеўскім», «На дне», «Лес», «Чырвоны трыбун», «Нарадавольцы» «Крах самадзяржаўя»—такія назвы былі на афішы творчага калектыву, спектаклі якога наведвалі і кіраўнікі партыі і ўрада.

Аўтар нядаўна выдадзенай кніжкі «Юрый Тарыч» кіназнаўца Анатоль Красінскі правільна зрабіў, падрабязна спыніўшыся на гэтым, хай сабе і не вельмі доўгім па часе, але важным у працэсе станаўлення арыгінальнага мастака перыядзе. Зарад палітычнай пільнасці ў выбары тэм і вобразаў, атрыманы Ю. Тарычам на пачатку самастойнай мастацкай дзейнасці, быў глыбокі і заўсёды гатовы раскрыцца ў тэмпераментным выступленні гэтага майстра савецкага экрана на рэжысёрскай і літаратурнай ніве. Тады ён і навучыўся быць палымяным публіцыстам у агітках і ўдумлівым псіхолагам ў раскрыцці рэалістычных твораў, гісторыкам, здольным разглядаць мінулае праз прызму сучаснасці і ацэньваць яго з рэвалюцыйных пазіцый. Да кінарэжысуры, якая пазней стала галоўным прызваннем Ю. Тарыча, рыхтавала і яго дзейнасць арганізатара масавых святочных відовішчаў на маскоўскіх вуліцах і плошчах. Тут яму давялося мець справу з вялікімі калектывамі ўдзельнікаў і аператыўна кіраваць тым, што на мове тэатра і кіно называюць «натоўпам».

З такім творчым багажом ён і пераступіў парог кінастудыі, каб аддаць свой талент маладому мастацтву, якое з першых гадоў Савецкай улады было прызнана самым масавым і самым важным па ўздзеянні на гледача. Мабыць, кожны чытач, знаёмы з гісторыяй нашага экраннага мастацтва, зацікавіцца гэтымі старонкамі, бо яны даюць яшчэ адзін канкрэтны прыклад і раскрываюць канкрэтны лёс аднаго з піянераў мастацкага кінематографа Беларусі. Маючы багаты вопыт сцэнарыста і драматурга ў многіх жанрах гэтага віду літаратуры, Ю. Тарыч натуральна і ўпэўнена ўступае ў рады рэжысёраў. Аўтар кніжкі падрабязна пераказвае змест, сюжэт і характарызуе літаратурныя вартасці твораў, аўтарам якіх выступаў гэты тэарэтычна ўзброены і дасведчаны, арыгінальны і дапытлівы мастак. Упершыню ў навуковае асвятленне трапляюць дакументы і мемуарныя выказванні, знойдзеныя А. Красінскім у архівах, «аднаўляюцца» стужкі, якія, на жаль, не захаваліся ў кінафондах краіны, выкарыстоўваюцца выказванні перыядычных выданняў той пары... Засярodзіўшы ўвагу на рэжысёрскай дзейнасці Ю. Тарыча, даследчык не «забывае» і яго выступленняў на акцёрскай ніве.

Так крышталізуецца партрэт няўрымслівага мастака, які ніколі не ведаў, што такое «спакой» і што такое «стомленасць», умеў сваім гарэннем захапіць і супрацоўнікаў-калег. Напрыклад, многае ў індывідуальнасці выдатных рэжысёраў сучаснага кінематографа, народных артыстаў СССР І. Пыр'ева і У. Корш-Сабліна адкрыў і замацаваў сваім творчым даверам і падтрымкай Ю. Тарыч.

Наогул А. Красінскаму пашчасціла як даследчыку—ён бачыць героя сваёй кнігі ў «ланцугу» з'яў і імёнаў. Тое, што тарычаўскі фільм «Крылы халопа» манціравала славутая Э. Шуб, а сцэнарыстам «Грышкі-свінапаса» («Лясная быль») быў М. Чарот, «Булат-Батыра»—Н. Зархі, «Капітанскай дачкі»—В. Шкloўскі, кампазітарам «Шляху карабля»—І. Дунаеўскі, а «Нябёсаў»—В. Салаўёў-Сядой, — ва ўсіх гэтых фактах мы, чытачы кнігі, бачым прыклад сапраўды творчай садружнасці талентаў, садружнасці, якую так цаніў гэты рэжысёр.

Думаецца, што раздзел «Ля вытокаў беларускага кіно» мае такі карысны і цікавы пазнавальны матэрыял, што яго перачытаюць і знаўцы гісторыі нашага экраннага мастацтва, і моладзь, для якой тыя гады—мінуўшчына. Скажам, А. Красінскі так «паказвае» тую ж «Лясную быль», што і тыя, хто не бачыў карціну нават у фрагментах, атрымліваюць яркае ўяўленне пра стужку і знаёмяцца з грунтоўным эстэтычным аналізам твора. Таксама падрабязна разгледжаны аўтарам і фільм «Адзінаццатае ліпеня», які быў пэўнай вяхой у развіцці нацыянальнага беларускага кінамастацтва.

Багатая на інфармацыю і цікавыя фактычныя звесткі, змястоўная ў аналізе творчасці выдатнага рэжысёра Юрыя Тарыча, кніга пакідае добрае ўражанне як манаграфічны партрэт мастака, натхнёнага рэвалюцыяй. Трэба спадзявацца, што на яе звернуць увагу шматлікія аматары і прыхільнікі дзесятай музы мастацтва.

**В. ІВІН.**

А. Красінскі. «Юрый Тарыч». На рускай мове. Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1971.

# МІКОЛКА ЕДЗЕ НА ВЯРБЛЮДЗЕ

Міколку Паўлаву, вучню адной з мінскіх школ, вельмі пашчасціла. Цэлае лета ён правёў у вандроўках па краіне казак і легендаў—Егіпце. Сюды, у гэтую краіну, узяў яго з сабой бацька, які працаваў тут на адной з найвялікшых будоўляў свету.

Дзе толькі ні пабываў Міколка, чаго толькі ні пабачыў: ездзіў на вярблюдзе, хадзіў па зямлі горада, які праглынула пустыня, спускаўся ў сутарэнні старажытных пірамід, якім па пяць тысяч гадоў...

Міколкавым здзіўленням у гэтай краіне, здавалася, не будзе канца. Але найвялікшае з іх, нечакана нават для Міколкі, было на Асуанскай плаціне.

«Я глядзеў на плаціну,—расказвае Міколка,—яна надзвычай прыгожая, з ружовага граніту, і аж свеціцца на сонцы... Нічога больш велічнага, чым Асуанская плаціна, я ніколі ў жыцці не бачыў».

3.600 метраў яе даўжыня. На 111 метраў узвышаецца яна над вадой, ад верху плаціны да дна Ніла—980 метраў. 14 метраў шырыня дарогі, якая ідзе па плаціне.

Гэтыя лічбы яму назваў бацька. Міколка зноў у незвычайным захапленні. «Вось дык перагародка!» — усклікае ён, гледзячы на магутны вадаспад, які вырываўся праз гранітныя тунелі, падаў, кіпеў, пеніўся, бушаваў...

Міколка Паўлаў — герой аповесці Галіны Васілеўскай «Я еду на вярблюдзе», аповесці, скажам адразу, цікавай. І не столькі тымі дзівосамі, якія пабачыў Міколка за дні сваіх вандровак, што ўжо само па сабе мае вялікую чытацкую цікавасць, колькі шчырасцю і непасрэднасцю самога героя, яго паводзінамі, думкамі. Падарожнічаючы па егіпецкіх пустынях, наведваючы славутыя каірскія музеі, Міколка ніяк не можа прызвычаіцца да многіх рэчаў. Ужо зварот «сэр» выклікае ў яго пярэчанне. «Я—не сэр, я—Міколка»,—спрабуе пераканаць ён тых, хто гэтак звяртаецца да яго. І гэтае Міколкава пярэчанне выклікае ў нас прыемную ўсмешку.

Пісьменніца вельмі арганічна «ўжылася» ў ролю хлопчыка. Яна, бадай, ні ў чым (ні ў мове, ні ў паводзінах, ні ў псіхалогіі) не фальшывіць.

Праўда, сям-там пісьменніца ўсё ж навязвае не характэрныя яму рэплікі, заўвагі, вывады. Асабліва гэта адчуваецца ў канцоўцы. Плынь гутарковай мовы тут перабіваецца апісальніцтвам, а яно заглушае Міколкаву індывідуальнасць, псуе натуральнасць апавядання.

**Ул. СОДАЛЬ.**

Галіна Васілеўская. «Я еду на вярблюдзе». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1970.

# ПА ЖЫЦЦІ — З ПЕСНЯЙ

*100 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ У. ТЭРАЎСКАГА*



УСЁ сваё жыццё прысвяціў Уладзімір Васілевіч Тэраўскі папулярызацыі беларускай народнай песні. Збіраў, запісваў, выхоўваў выканаўцаў, кіраваў хорамі. Любіў песню бязмежна, самааддана, не ўяўляў сабе жыцця без яе. На жаль, захавалася занадта мала звестак, каб было магчыма поўна і глыбока расказаць пра той скарб, які ён падараваў беларускаму музычнаму мастацтву. Але паспрабуем узнавіць усё, што сёння магчыма.

Нарадзіўся Уладзімір Васілевіч 11 лістапада 1871 года ў мястэчку Рамана ва былога Слуцкага павета. Дырыжыраваць хорам пачаў ужо ў 16—17 гадоў, а ў 19 уладкаваўся на работу ў Мінску. Пасля адбыцця вайсковай службы У. Тэраўскага запрашае ў свой хор вядомы дырыжор Славянскі. Наступны перыяд дзейнасці Тэраўскага звязаны з кіраўніцтвам аматарскімі хорамі на Урале. Як сведчыць газета «Савецкая Беларусь» ад 28 жніўня 1927 года, дзейнасць яго там была вельмі плённай. Канцэрты хораў Шайтанскага і Білімбаеўскага заводаў пад кіраўніцтвам Уладзіміра Васілевіча карысталіся незвычайным поспехам, прычым значную частку праграмы складалі беларускія народныя песні.

З 1901 года У. Тэраўскі зноў працуе ў Мінску. У час першай сусветнай вайны калектыў Тэраўскага не раз выступаў у шпіталях перад паранымі. І зноў беларуская песня абавязкова ўключалася ў рэпертуар.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года Мінскі аматарскі хор, якім кіраваў Уладзімір Васілевіч, быў рэарганізаваны ў Беларускі народны хор. Тады ж ён пачынае сваю дзейнасць у прафесійным мастацтве. Калі было арганізавана Першае таварыства беларускай драмы і камедыі на чале з У. Фальскім і Ф. Ждановічам, музычную частку гэтага аб'яднання ўзяў на сябе У. Тэраўскі .

Нягледзячы на часовую акупацыю тэрыторыі Беларусі кайзераўскімі войскамі, стваральнікам таварыства ўдалося 19 мая 1918 года адкрыць у Мінску Народны дом імя Максіма Багдановіча. У. Тэраўскі—аўтар музыкі да п'есы «Бязвінная кроў», якую У. Галубок напісаў спецыяльна да адкрыцця дома. Мяркуючы па ўспамінах прысутных, музыка садзейнічала поспеху ўсяго спектакля, пастаўленага Ф. Ждановічам. З гэтага часу пачынаецца супрацоўніцтва Тэраўскага і Галубка, якое дало выдатны плён: з'явіліся цікавыя творы для тэатра, напісаныя ў жанры музычнай драмы.

Далейшая творчая дзейнасць У. Тэраўскага звязана з Першым беларускім дзяржаўным тэатрам. Для гэтага калектыву, які меў у сваім складзе таксама хор, балетную трупу і сімфанічны аркестр, Уладзімір Васілевіч напісаў музыку да такіх спектакляў, як «На Купалле», «Каваль-ваявода», «Машэка», «Кастусь Каліноўскі» і інш. На думку Змітрака Бядулі, у спектаклі «На Купалле» багацце выкарыстаных народных мелодый адыграла не меншую ролю ў поспеху спектакля, чым драматургія М. Чарота. Дадамо, што для пастаноўкі «На Купалле» У. Тэраўскі гарманізаваў народныя песні «Ой, рана на Йвана», «Сёння Купала, а заўтра Ян», «Купала ночка маленькая», «Купалінка», «Цёмная ночка» і інш. Частка музычных нумараў, у тым ліку вакальныя ансамблі і хоры, была напісана самім Уладзімірам Васілевічам.

Якое значэнне мелі ў музычным жыцці тагачаснай Беларусі гарманізацыі і апрацоўкі У. Тэраўскага, сведчыць той факт, што ўжо ў 1920 годзе ў Мінску быў выдадзены зборнік 25 яго арыгінальных песень і апрацовак, а праз некаторы час у Берліне выйшаў з друку складзены ім зборнік «Лірнік», у які ўвайшло 100 твораў. Да ліку творчых здабыткаў У. Тэраўскага ў песенным жанры трэба аднесці і яго зборнік «Ваяцкі песеннік», складзены з трыццаці арыгінальных песень.

Гаворачы пра значэнне творчай спадчыны У. Тэраўскага, нельга не адзначыць, што ягоная музыка да драматычных спектакляў, у якой кампазітар выкарыстоўваў шматбаковыя сродкі музычнай выразнасці, садзейнічала падрыхтоўцы слухачоў да ўспрыняцця складаных форм музычнага тэатра, што нарадзіўся на Беларусі ў пачатку трыццатых гадоў. Дарэчы, такія оперы, як «Кветка шчасця» А. Туранкова, «Машэка» Р. Пукста, «Кастусь Каліноўскі» Д. Лукаса, у пэўнай ступені могуць разглядацца як «нашчадкі» аднайменных драматычных твораў, што ішлі на сцэне Першага БДТ з музыкай У. Тэраўскага.

І сёння, калі мы гаворым пра росквіт музычнай культуры Савецкай Беларусі, нельга абмінуць яркую дзейнасць Уладзіміра Васілевіча Тэраўскага, 100 гадоў з дня нараджэння якога споўнілася гэтымі днямі.

Л. ІВАШКОЎ.

## З пошты ЛіМа

# ДАЙЦЕ СВЕЖУЮ ГАЗЕТУ

У кожнай працоўнай раніцы нашых гарадоў ёсць адзіная агульная прыкмета. На прыпынках грамадскага транспарту, у аўтобусах і трамваях шалясцяць старонкі свежых газет. Будны, але заўсёды хвалюючы момант сустрэч чалавека з навіной!

Вось за гэтай навіной мы і прыйшлі ў адзін з газетных кіёскаў Віцебска. Блакітная шыльдачка кіёска ў самым цэнтры горада, на рагу вуліц імя Леніна і «Праўды», побач з гарвыканкомам. Ранішнія гадзіны пік ужо адшумелі, па вуліцы снавалі паўпустыя трамваі. Нікога не было і ля кіёска.

— Нам, калі ласка, «Советскую Белоруссию», сённяшні нумар.

— Прабачце, няма...

Мы меркавалі, што спазніліся, што адну з папулярных газет рэспублікі ўжо даставілі прагнаму да навін чытачу. Што зараз яе чытаюць ва ўсіх кутках буйнага індустрыяльнага горада. Аднак высветлілася, што ў кіёск ніводная, ні цэнтральная, ні рэспубліканскія газеты, датаваныя сённяшнім днём, яшчэ не паступалі.

Мы прайшлі па вуліцы Леніна, цэнтральнай вуліцы Віцебска, і ў кожным кіёску нам адказвалі:

— Свежыя газеты будуць не раней дзесяці гадзін...

— І так кожны дзень?

— Так кожны дзень,— пачулі ў адказ.

Прыгожыя газетныя кіёскі, якіх шмат у Віцебску і якія растуць, як грыбы пасля дажджу, жылі ўчарашнім днём.

Паэт Пятрусь Броўка ў адным з вершаў вобразна параўноўваў пустую паштовую скрынку, у якую спазнілася газета, з ледзяным склепам. Яшчэ горшае ўражанне пакідаюць газетныя кіёскі без свежай перыёдыкі.

А на газетных вітрынах свежая перыёдыка з'яўляецца раней, чым у кіёсках. Недзе ўжо пасля васьмі гадзін раніцы па вуліцах ідуць расклейшчыкі газет. І неўзабаве на кожнай вітрыне свеціцца навіной свежы нумар. Такім чынам, толькі ўнутрыведамасныя прычыны стрымліваюць своечасовае паступленне ў кіёскі «Саюздруку» свежай перыёдыкі, якая прыходзіць у Віцебск раніцой.

Газетныя вітрыны — важная крыніца навіны. Тут нельга не ўспомніць увагу Уладзіміра Ільіча Леніна да такога спосабу распаўсюджвання перыядычных выданняў. У сваім артыкуле «Аб рабоце Наркамасветы» У. І. Ленін указвае на вялікую эфектыўнасць «расклейкі» газет, мэтазгоднасць такой формы распаўсюджвання друку, падкрэслівае, што да кожнага газетнага нумара трэба адносіцца па-гаспадарску.

А вось парадак размяшчэння газетных вітрын у Віцебску не заўсёды бясспрэчны. На плошчы Чарняхоўскага— буйнейшым скрыжаванні горада, праз якое штодзённа перамяшчаецца шматтысячны паток людзей, толькі адзіны газетны стэнд. І той, дарэчы, размешчаны не ў самым ажыўленым месцы. Такое ж становішча — на плошчы Леніна, дзе знаходзяцца вялікі кінатэатр, палац культуры ўпраўлення бытавой абслугі, шматлікія магазіны, прадпрыемствы бытавой абслугі. Мэтазгодна было б абсталяваць газетныя вітрыны ля будынкаў вышэйшых навучальных устаноў горада, тэхнікумаў, ля многіх прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў.

Не лепшае становішча з абсталяваннем газетных вітрын у некаторых раёнах вобласці. Справа іншы раз даходзіць да кур'ёзаў. У Паставах, напрыклад, у памяшканні аўтавакзала, газета знаходзіцца за... драцяной сеткай. Дзіўныя меры для аховы газеты... тыднёвай даўнасці.

На турбазе «Браслаўскія азёры» летам, у разгар масавага адпачынку, нялёгка ў мясцовым аддзяленні сувязі набыць свежую газету. Пошта, дарэчы, прыходзіць сюды пасля 14 гадзін. Адзіная вітрына абнаўляецца свежай газетай далёка не кожны дзень.

Прыходзілася чуць, што ў некаторых дамах адпачынку пабудаваны лёгкія павільёнчыкі са сціплай вывескай «чытальня». Туды заўсёды дастаўляюцца свежыя газеты, часопісы. Зразумела, што мэтазгоднасць такіх чытальняў вызначаецца колькасцю адпачываючых. А вось некалькі газетных вітрын з рознымі выданнямі не цяжка абсталяваць у любым месцы.

Лёгкі павільёнчык-чытальня, думаецца, не пуставаў бы ў людным парку, скверы, асабліва ўлетку.

Абсталяванне газетных вітрын, павільёнаў-чытальняў, зразумела, патрабуе адпаведных сродкаў. Але гэтыя выдаткі не перавышалі б тыя, іншы раз залішнія сродкі, што ідуць на абстрактную, далёка не танную рэкламу тыпу «Выпісвайце і чытайце»... «Саюздрук» павінен, як кажуць, прапанаваць тавар, паказаць яго аблічча. І вось гэтая самарэклама выдання будзе і больш дзейсная, і больш патрэбная, больш танная.

У гэтай справе важная роля належыць грамадскім распаўсюджвальнікам друку. Бадай у кожным вялікім калектыве не цяжка абсталяваць адну або некалькі газетных вітрын, вывешваць на іх газеты, якія ідуць па ведамаснай падпісцы. Ініцыятарамі такой работы могуць і павінны стаць грамадскія распаўсюджвальнікі друку.

Шмат работы прадстаіць камсамольскім актывістам. У Віцебску зараз зусім мала вітрын з маладзёжнымі выданнямі рэспублікі.

Віцебск — важны культурны цэнтр вобласці. Тут працуюць Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр імя Якуба Коласа, шмат культасветустаноў, мастацкія майстэрні... І нідзе ў горадзе не знойдзеш вітрыны з газетай «Літаратура і мастацтва».

«Саюздрук» — істотнае звяно ў ланцугу «падзея — газета — чытач». Работа гэтай важнай службы падпарадкавана аднаму з асноўных фактараў усёй газетнай работы — аператыўнасці. Вось аб гэтым і хацелася напомніць калектыву абласнога аддзялення «Саюздрук».

А. ПАЛОНСКІ,
В. МАГІЛЬНЫ,
журналісты.

# ПАКУЛЬ ШТО НА ПЛАНШЭТАХ...



Праект будынка Гомельскага прафтэхвучылішча.

У Саюзе архітэктараў БССР адкрылася выстаўка работ Беларускага праектна-тэхналагічнага інстытута Белмясцпрампраект. Тут работы апошніх год, цікавыя па аб'ёмна-планіровачных і канструктыўных рашэннях. Ажыццёўленыя і такія, што толькі распрацоўваюцца.

Архітэктары Белмясцпрампраекта прапанавалі праект рэканструкцыі Мінскага маторнага завода. Узбуйняюцца карпусы дызельнага цэха № 2, цэнтральнай заводскай лабараторыі, інжынерны корпус з размешчанымі ў ім кіраўніцтвам завода, паліклінікай, сталовай. У цэхах зменяцца інтэр'еры. Будзе больш святла, прасторы, будуць створаны ўсе ўмовы для павышэння прадукцыйнасці працы.

Распрацаваны таксама праект рэканструкцыі Мінскага трактарнага завода. Фасады яго ўпрыгожаць анадзіраваны алюміній, паліраваны мармур, граніт.

Вось праект абнаўлення швейнай фабрыкі ў Брэсце. Фабрыка размешчана ў цэнтры жылога раёна, акружана грамадска-бытавымі і жылымі будынкамі. Усё гэта ўлічвалі архітэктары, прапануючы новыя прыёмы ашклення і аздаблення цэхаў. Фабрыка будзе важным горадабудаўнічым акцэнтам.

Архітэктары прапанавалі і праект рэканструкцыі свайго інстытута. У адзінае цэлае аб'ядноўваюцца некалькі розных па прызначэнні будынкаў, атрымліваецца цікавы аб'ём.

Увагу наведвальнікаў выстаўкі прыцягваюць таксама праекты друкарні ў Барысаве, мэблевага прадпрыемства для горада Броды, што на Украіне, прафтэхвучылішча ў Гомелі, трыкатажнага камбіната ў Вінніцы. На выстаўцы прадстаўлены таксама работы аддзела прамысловай эстэтыкі інстытута.

Л. КАРПАВА.



Праект пашыранага вытворчага будынка інстытута Белмясцпрампраект.

# НА БЛАКІТНЫМ ЭКРАНЕ — «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ»

(Заканчэнне. Пачатак на 8-й стар.)

справа, што пісьменнік часам вельмі стрыманы ў сваім знешнім эмацыянальным праяўленні. У такім выпадку работнікам тэлебачання трэба знайсці спосаб «разгаварыць», прымусіць яго «раскрыцца».

Пісьменніку трэба памятаць, што тэлеэкран патрабуе ад выступаючых умення наладжваць кантакт з нябачнай аўдыторыяй. Застаўшыся сам-насам з гледачамі, ён гутарыць з кожным паасобку і адначасова з мільёнамі людзей. І для таго, каб авалодаць увагай чытачоў, зрабіць іх «сааўтарам» сваіх думак і пачуццяў, трэба быць шчырым і эмацыянальна актыўным субяседнікам. Практыка паказала, што людзей, надзеленых «талентам шчырасці», якія могуць свабодна трымацца перад тэлекамерай, умеюць імправізаваць і цікава расказваць, заўсёды слухаюць з вялікім задавальненнем. Сакрэт поспеху такіх выступленняў у тым, што перад гледачамі ў дадзеным выпадку раскрываюцца таксама характар расказчыка і яго непаўторныя рысы.

Тэлеэкран — гэта своеасаблівы каталізатар зацікаўленасці да кніг і служыць добрым компасам у бурлівым кніжным моры. Тэлебачанне, ажыццяўляючы сувязь чытача з пісьменнікам, далучае мільёны людзей да духоўных каштоўнасцей, якія раней былі набыткам даволі акрэсленага і вузкага кола аматараў літаратуры. Пісьменнік павінен зразумець, што тэлебачанне

